ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!




# Комуністычнае выхаванне

ОРГАН
НАРКОМАСВЕТЫ
І ЦП САЮЗА
ПРАЦАСВЕТЫ
БССР

ЛІПЕНЬ — ЖНІВЕНЬ
№ 7—8
1934

ДЗЯРЖАУНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

N7-8. 1934

## ЗМЕСТ

*Стар.*



Здана ў друкарню 15|XI-34 г. Падпісана да друку 15|XII-34 г. Аб'ём 5¼ друк. аркушаў.
У друкаваным аркушы 64032 знакі. Тыраж 8000. Заказ № 1303. Уп. Галоўлітбела № а-1561.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Энгельса, 2.

*Д. Варшчэўская*

# Аб навучальных планах і праграмах

Вынікі іспытаў і выбарачнае абследванне школ паказалі, што мы ў мінулым годзе мелі поспехі ў вобласці засваення ведаў вучнямі, асабліва ў малодшых класах.

Але трэба падкрэсліць, што ўзровень ведаў, якія маюць вучні нашай сярэдняй школы, далёка недастатковы. Веды вучняў яшчэ не з'яўляюцца дастаткова цвёрдымі, дакладнымі. Ва ўсіх партыйных дакументах аб школе ясна гаворыцца не толькі аб неабходнасці ўзброіць вучня сістэматычнымі ведамі, але і падкрэсліваецца, што веды павінны быць дакладнымі, моцнымі.

Адной з важнейшых прычын, перашкаджаючых цвёрдаму замацаванню ведаў, з'ўлялася перагрузка праграм выдання 1933 г. Яна прымушала настаўніка амаль кожны дзень даваць вучням новы матэрыял і не адводзіла часу на паўтарэнне. Гэта ў значнай ступені прыводзіла да паверхоўных ведаў. Узброіць вучняў дакладнымі ведамі з'яўляецца важнейшай задачай на 1934—35 навучальны год.

Для выканання гэтай задачы неабходна добрая арганізацыя ўсёй вучэбнай работы і асабліва арганізацыя ўрокаў. І да гэтага часу мы яшчэ маем такое становішча, калі шмат часу губіцца дарэмна, непрадукцыйна, дзякуючы няўмелай арганізацыі педагагічнага працэса. Няма адпаведнай барацьбы за эканомію часу, за прадукцыйнае скарыстанне ўсяго вучэбнага дня. Гэтаму перашкаджае часам і недастатковая падрыхтоўка настаўніка да ўрока, адсутнасць прадумвання загадзя ўсіх арганізацыйных дробязей, якія неабходны для правільнага і рацыянальнага ходу ўрока, поўнага і эфектыўнага скарыстання вучэбнага часу.

Наша школа ў гэтым годзе павінна змагацца за поўнае скарыстанне ўсіх унутраных рэсурсаў і гэтым падняць якасць вучэбна-выхаваўчай работы, замацаваць веды вучняў, лепш засвоіць вучэбны матэрыял.

Новыя навучальныя планы і змены, якія адбыліся ў праграмах, маюць сваёй мэтай яшчэ больш (чым гэта было да гэтага часу) узброіць выкладчыкаў школ для барацьбы за поўную ліквідацыю карэннага недахопу школы, паказанага ў пастанове ЦК ад 5/IX—31 г.

Новыя навучальныя планы на 1934—35 нав. год адрозніваюцца ад навучальных планаў мінулага года тым, што ў іх павышана ўдзельная вага агульна-адукацыйных ведаў, пры гэтым асаблівы ўпор зроблен на вывучэнне мовы. Такое павелічэнне гадзін выклікана неабходнасцю даць час на паўтарэнне пройдзенага матэрыялу, без чаго не можа быць добрага засваення ведаў.

Другая асаблівасць новага навучальнага плана заключаецца ў тым, што распалажэнне вучэбных дысцыплін па класах стала больш прадуманым і абаснаваным. З гэтага пункту гледжання трэба разглядаць перанясенне праходжання фізікі з V у VI клас, хіміі з VI у VII клас.

Такая перасоўка аб'ясняецца тым, што вучні V класа яшчэ не маюць дастатковай матэматычнай падрыхтоўкі, без чаго не можа быць прапра-

цован курс фізікі, а вучні VI класа не маюць дастатковай фізіка-матэматычнай падрыхтоўкі, без чаго не можа прапрацоўвацца хімія.

Новыя навучальныя планы ў большай ступені, чым ранейшыя, улічваюць узросныя асаблівасці дзяцей. Вось чаму ў пачатковай школе праца, лепка і рысаванне аб'яднаны разам. Адсутнасць спецыяльных гадзін на працу ў пачатковай школе і скарачэнне яе ў сярэдняй не з'яўляецца недаацэнкай працоўнага навучання. Скарачэнне выклікана тым, што нашы праграмы па працоўнаму навучанню ў мінулым годзе былі надзвычайна перагружаны абстрактным тэарэтычным матэрыялам, замест канкрэтнай, даступнай і цікавай для вучняў працы. У I і II класах на занятні па грамадазнаўству па навучальнаму плану не адведзена спецыяльных гадзін, аднак, гэта не значыць, што мы адмаўляем патрэбнасць знаёміць вучняў гэтых класаў з грамадска-палітычным жыццём. Азнаямленне павінна быць праведзена на матэрыяле даступным, цікавым данаму ўзросту, павінна адпавядаць таму колу ўяўленняў і ведаў, якія маюць вучні гэтых класаў. Не вылучаючы па вучэбнаму плану грамадазнаўства, Наркомасветы патрабуе ад настаўнікаў умелага скарыстання для грамадска-палітычнага развіцця вучняў тых артыкулаў, якія ёсць у чытанках для I і II класаў.

Змены, праведзеныя ў праграмах, маюць сваёй мэтай разгрузіць іх ад недаступнага вучням вучэбнага матэрыялу, вызначыць час для паўтарэння пройдзенага, пераразмеркаваць матэрыял па гадах навучання, забяспечыць у выкладанні нагляднасць, канкрэтнасць і сувязь тэорыі з практыкай.

Праграма па мове выдання 1933 г. адрознівалася ад ранейшых праграм тым, што давала матэрыял у пэўнай сістэме, забяспечвала вучням паслядоўнае праходжанне курса роднай мовы пад кіраўніцтвам настаўніка. Вопыт гадавой работы пацвярджае правільнасць яе пабудовы. Але разам з гэтым выяўляецца і перагрузка яе, асабліва па раздзелу—„Граматыка і правапіс". Праграма па мове ў мінулым годзе ў асноўным была выканана, але якасць набытых ведаў і навыкаў далёка не адказвала пастаўленай перад школай задачы—навучыць дзяцей правільна вусна і пісьмова выражаць свае думкі. Вучні вельмі часта слаба чытаюць, дрэнна пішуць, слаба ведаюць граматыку і правапіс, што дрэнна адбіваецца на граматнасці іх пісьма і на вуснай мове.

На 1934—35 г. праграма разгружана ад лішніх дэталей, выключан або перанесен у старшыя класы матэрыял, недаступны вучням данага ўзросту, і, нарэшце, выходзячы з рэальнай колькасці гадзін, праграмны матэрыял размеркаван па гадах навучання так, каб забяспечыць магчымасць яго сур'ёзнага і дакладнага засваення вучнямі. Праграмны матэрыял па мове размеркаван па класах наступным чынам:

а) Праграма I класа асталася амаль без змен. Азначэнне сказа перанесена ў II клас з той прычыны, што яно цяжка ўспрымаецца школьнікамі I класа. У I класе астаецца толькі самае простае разуменне аб сказе.

б) Работу па граматыцы ў II класе трэба пачынаць з паўтарэння пройдзенага матэрыялу ў I класе, уключыўшы больш падрабязнае разуменне аб сказе.

в) Змены ў праграме III класа зроблены ў двух напрамках: па-першае, сінтаксічны і марфалагічны матэрыял дан раздзельна і, па-другое, з праграмы па марфалогіі больш цяжкі матэрыял перанесен у IV клас.

г) У праграме IV класа скарочан аб'ём сінтаксічнага матэрыялу і скандэнтраван матэрыял аб часцінах мовы.

д) Праграма V класа пасля некаторых папярэдніх ведаў па сінтаксу простага сказа павінна даць вучням асноўныя раздзелы марфалогіі.

е) У VI класе праграма прадугледжвае заканчэнне марфалогіі, пасля чаго асноўная ўвага аддаецца сінтаксу простага сказа.

ж) Праграма VII класа галоўную ўвагу канцэнтруе на сінтаксе складанага сказа.

Такая перастаноўка матэрыялу з класа ў клас разгружае праграму і робіць яе выпаўнімай. Абавязак настаўніка і выкладчыка—выканаць у гэтым годзе поўнасцю рашэнне ЦК партыі аб канчатковай ліквідацыі карэннага недахопу ў рабоце нашай школы і паставіць работу па мове так, каб школа выпускала зусім граматных людзей у тэхнікумы і ВНУ.

Трэба падкрэсліць, што методыка работы па мове мае шэраг буйнейшых недахопаў. Граматыка прападносіцца вучням вельмі суха, схаластычна. Вучні мала практыкуюцца на прыкладах, слаба замацоўваюць набытыя веды. Некаторыя школы зусім не практыкуюць творчых работ вучняў, што прыводзіць да беднасці мовы. Наша школа яшчэ недастаткова змагаецца за культуру мовы. Сам настаўнік часта неахайна адносіцца да чыстаты сваёй мовы, не прадумвае да канца фармуліровак, якія дае вучням, не заўважвае памылак вучняў, і, такім чынам, іх культывуе. Усе гэтыя буйнейшыя недахопы ў рабоце настаўніка і выкладчыка мовы павінны быць рашуча ізжыты ў гэтым навучальным годзе.

Для нацыянальных школ у гэтым годзе ўпершыню выданы спецыяльныя праграмы па беларускай і рускай мове, чым нанесен рашучы ўдар усім нацдэмаўскім і іншым буржуазна-нацыяналістычным атрыжкам, меўшым месца ў рабоце нашых школ і выяўляўшымся ў ігнараванні рускай і беларускай мовы ў нацыянальных школах.

Праграма па беларускай мове ў нацыянальнай школе канцэнтруе ўвагу на вывучэнні фанетыкі, робіць упор на правільнае вымаўленне і чыстае правільнае пісанне. Праграма VI і VII класаў дае матэрыял па марфалогіі. Сінтакс пераносіцца ў VIII і IX класы. Руская мова ў нацыянальных школах у гэтым годзе пачынаецца з V класа. Гэта зроблена з мэтай разгрузкі пачатковай школы ад вывучэння трох моў. Праграмны аб'ём па рускай мове ў нацыянальнай школе такі-ж як і па беларускай. Выкладчыкі рускай мовы павінны сур'ёзна і чотка прадумаць методыку сваёй работы ў тым напрамку, каб лепш скарыстаць веды вучняў па роднай і беларускай мовах, каб за адведзеную колькасць гадзін даць неабходны аб'ём ведаў па рускай мове. Аб'ём праграмнага матэрыялу па беларускай мове ў рускіх школах больш, чым у іншых нацыянальных школах. Гэта тлумачыцца тым, што ў рускіх школах дзеці вывучаюць толькі дзве мовы.

У рабоце настаўнікаў беларускай і рускай мовы павінна быць поўная дагаворанасць. Трэба не паўтарацца і сканцэнтроўваць увагу выключна на спецыфіцы мовы.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб выкладанні гісторыі і геаграфіі маюць самае непасрэднае дачыненне і да выкладання іншых дысцыплін, у прыватнасці літаратуры. Вопыт работы мінулага года паказаў, што праграма па рускай і беларускай літаратуры надзвычайна перагружана, матэрыял не адпавядае ўзросту вучняў. Галоўнае-ж заключалася ў тым, што праграма давала адцягнутыя соцыялагічныя схемы, якімі часта падмянялася канкрэтная літаратурна-крытычная ацэнка твораў.

Аднак, ужо пасля пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР у час іспытаў па менскіх школах мы мелі такія-ж скажэнні.

У 20-й школе ў V класе на іспытах па літаратуры пры разборы твора Я. Купалы настаўніца зусім не цікавілася, як засвоен змест твора вучнямі, як успрыняты вобразы герояў і т. д. Пытанні настаўніцы зводзіліся толькі к аднаму: „ад імені каго выступае Купала ў гэтым творы“ і падобныя. На такія пытанні вучні адказвалі кароткай схематычнай формулай і на гэтым разбор твора канчаўся.

Такім чынам, мы мелі рад выпадкаў вульгарызацыі мастацкай літаратуры замест скарыстання яе як моцнай зброі прывіцця вучням добрай мастацкай мовы, умення разабраць змест твора і набыцця навыкаў рэвалюцыйнага марксісцка-ленінскага пазнання жыцця.

У выкладанні мастацкай літаратуры настаўнік павінен у гэтым годзе дабіцца знішчэння паказаных недахопаў. Трэба ўскрыць асаблівасці, характэрныя для літаратурна-мастацкіх твораў, і падвесці вучняў да разумення пазнавальнага і эмацыянальнага значэння твораў мастацкай літаратуры, трэба прывіць вучням інтарэс да літаратуры і ўменне правільна яе засвойваць.

У гэтым навучальным годзе праграмы па літаратуры скарочаны— выкінут шэраг другарадных твораў, якія перанесены на пазашкольнае чытанне.

Іспыты паказалі, што і ў вобласці матэматыкі быў нероўнамерна размеркаван праграмны матэрыял як у пачатковай, так і ў сярэдняй школе.

Выходзячы з гэтага ў праграму па матэматыцы для пачатковай школы ўнесены наступныя змены:

1. Усе класы пачатковай школы працуюць у асноўным над цэлымі лікамі, бо гэта аснова пачатковай матэматыкі. З праграмы I класа выключаецца і пераносіцца ў II клас азнаямленне з долямі.

2. З праграмы II класа аддзел „Практыкаванні ў вымярэнні на мясцовасці і азнаямленне з масштабам“ перанесен у III клас; выключана азнаямленне з меркай вагі тонай.

3. З праграмы III класа выключана і перанесена ў IV клас практыкаванне з долямі.

4. Праграма IV класа палавіну года займае цэлымі лікамі і толькі ў 3 і 4 чвэрці ідзе праца над дзесятковымі дробамі. Па ўсіх чвэртках астаўлен час на паўтарэнне курса.

Праграма па матэматыцы для сярэдніх школ мае наступныя змены:

З праграмы V класа па арыфметыцы выключаюцца адносіны, прапорцыі, залежнасць паміж велічынямі, процанты і літарныя выражэнні. Увесь гэты матэрыял перанесен у праграму VI класа.

Пры вывучэнні курса геаметрыі ў V класе трэба дапамагчы вучням набыць пэўную колькасць геаметрычных фактаў і навыкаў на падставе наглядных уяўленняў і практыкаванняў у вымярэнні.

Гэта разгрузка зроблена з мэтай дабіцца высокай матэматычнай пісьменнасці вучняў і ліквідацыі недахопаў па арыфметыцы. Неабходна даць значна больш увагі рашэнню задач. Уменне рашаць задачы з'яўляецца галоўным паказчыкам развіцця матэматычнага мышлення ў вучняў. Часта школа ўсю сваю ўвагу канцэнтруе на рашэнні прыкладаў, а задач або зусім не рашаюць, або рашаюць надзвычайна простыя і прымітыўныя. Настаўнік павінен загадзя прадумваць задачы, якія ён будзе даваць вучням, з такім разлікам, каб іх паступова ўскладняць і тым самым спрыяць развіццю матэматычнага мышлення ў вучняў.

Праграма па прыродазнаўству ў пачатковай школе таксама ўдасканалена і спрошчана. Адведзеная на прыродазнаўства адна гадзіна ў I класе павінна быць скарыстана выключна на непасрэднае азнаям-

ленне з прыродай на экскурсіі, назіранне прыроды ў жывым кутку, на правядзенне прадметных урокаў. З праграмы II класа выключана тэма „Лес вясной“. Дабаўляюцца гадзіны „Хатнія і дзікія жывёлы“, „Пруд і рака“. Да праграмы III класа дабаўляецца назіранне „Як з насення развіваецца расліна і розныя спосабы распаўсюджвання насення і пладоў“ (у сувязі са скарачэннем гэтага матэрыялу ў IV класе). З праграмы IV класа выключаецца тэма „Жыццё раслін“. Дадаюцца гадзіны да тэм „Жыццё жывёл“ і „Будова і работа чалавечага цела“.

У праграму батанікі V класа ўнесены наступныя змены:

1. З раздзелу „Агульнае азнаямленне з кветкавай раслінай“ выключаюцца наземныя і падземныя зімуючыя часткі расліны, будова і роля перазімоўвання раслін, аднагадовыя, двухгадовыя і шматгадовыя расліны.

2. За лік зробленага скарачэння аддаць больш часу вывучэнню раслінай клеткі, кветкавай будовы раслін, увёўшы практычныя заняткі з мікраскопам.

Праведзена таксама пераразмеркаванне і скарачэнне матэрыялу па заалогіі, анатоміі і фізіялогіі чалавека, эвалюцыйнаму вучэнню і геалогіі.

Галоўнейшымі недахопамі ў выкладанні гісторыі і засваенні яе вучнямі з'яўляліся:

1. Дрэннае веданне вучнямі гістарычных фактаў. Падзеі і асобы замяняліся голымі схемамі, агульнымі палажэннямі, у якіх вучні вельмі дрэнна разбіраліся. Гістарычны працэс абязлічваўся.

2. Незразуменне прычынна-залежных сувязей гістарычных падзей. У вучняў вельмі слабае разуменне гістарычнай перспектывы, таму нярэдка гістарычныя падзеі вучні тлумачаць як сучасныя. Дрэнная арганізацыя ўрокаў па гісторыі і нездавальняючая методыка выкладання.

3. Дрэннае веданне храналогіі, няўменне скарыстоўваць карту ў сваёй рабоце.

4. Недастаткова скарыстоўваліся гістарычныя ілюстрацыі, вучань замест жывога гістарычнага малюнка атрымліваў сухі пераказ матэрыялу падручніка. Настаўніку трэба поўнасцю перабудаваць сваю работу ў адпаведнасці з пастановамі ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 16/V—34 г.

У гэтым навучальным годзе мяняецца размеркаванне праграмнага матэрыялу па гісторыі па гадах навучання ў наступным парадку:

1. У V класе скарачаецца раздзел першабытнага грамадства і пераносіцца ў VI клас гісторыя Рыма.

2. У VI класе курс пачынаецца з гісторыі Рыма і канчаецца Крыжовымі паходамі.

3. У VII класе прадаўжаецца вывучэнне сярэдняй гісторыі з часоў пасля Крыжовых паходаў і заканчваецца Англійскай рэвалюцыяй. Тэмы: „Прамысловы пераварот“ і „Вялікая французская рэвалюцыя“ пераносяцца ў VIII клас.

4. З курса VI і VII класаў выключаецца гісторыя Расіі і народаў СССР.

5. У VIII і IX класах курсы новай гісторыі Захада і гісторыі СССР прадаўжаюцца на падставе пройдзенага ў мінулым навучальным годзе матэрыялу.

Выкладчыкам гісторыі ў гэтым годзе прадстаіць вялікая і ўпартая работа над сабой, без чаго перабудова выкладання гісторыі не можа быць ажыццёўлена. Выкладчык ні ў якім разе не павінен абмежавацца падручнікамі па гісторыі, яму неабходна прапрацаваць шмат дадатковай

літаратуры. Тут на дапамогу павінны прыйсці інструктары-метадысты, педагагічныя габінеты, гістарычныя аддзяленні ВНУ і гістарычны факультэт БДУ. Праз мясцовыя бібліятэкі трэба звязацца з Дзяржаўнай бібліятэкай і на міжраённы бібліятэчны абанемент атрымліваць неабходную дапаможную літаратуру. Кожная школа павінна быць забяспечана часопісам „Гісторыя ў школе“.

У пастанове партыі і ўрада ад 16 мая 1934 г. даны таксама дырэктывы, якія павінны быць пакладзены ў аснову далейшага паляпшэння выкладання геаграфіі. Змены, праведзеныя ў праграмах па геаграфіі, ставяць перад сабой гэту мэту.

У V класе захоўваецца ўстаноўлены аб'ём праграмы фізічнай геаграфіі без агляду матэрыкоў, змест спрашчаецца і прыстасоўваецца да ўзросту вучняў.

Праграма фізічнай геаграфіі ў асноўным астаецца ранейшай; некалькі зменен згодна метадычных патрабаванняў парадак вывучэння паасобных тэм, канкрэтызаван вучэбны матэрыял курса.

У праграме VI класа сканцэнтроўваецца ўвага на геаграфічным аглядзе частак свету (Еўропа, Азія, Афрыка, Аўстралія) з дадаткам асноўных звестак аб важнейшых дзяржавах па кожнай частцы свету (палітычны лад, народная гаспадарка і т. д.). Скарачаецца і спрашчаецца вучэбны матэрыял і прыстасоўваецца да ўзросту вучняў гэтага класа.

Да выдання новых праграм і падручнікаў работа ў VI класе па геаграфіі павінна праводзіцца па падручніках V і VI класаў.

Курс геаграфіі VII класа значна змяняецца. Па праграме выдання 1933 г. у VII класе прадаўжаўся эканомгеаграфічны агляд СССР па раёнах. Згодна пастановы ЦК і СНК СССР праграма па геаграфіі для VII класа павінна з'явіцца курсам фізічнай геаграфіі СССР, эканамічная ж геаграфія пераносіцца ў VIII клас.

Курс фізічнай геаграфіі СССР дзеліцца на дзве асноўныя часткі: першая частка—агульны фізіка-геаграфічны агляд СССР, другая—агляд па рэспубліках, краях і абласцях. Хоць агульны агляд СССР быў дан вучням у другім поўгоддзі мінулага навучальнага года, усё-ж работа ў VII класе павінна быць пачата з паўтарэння агульнага агляду СССР і пашырэння яго фізіка-геаграфічнага матэрыялу. Агульны фізіка-геаграфічны агляд павінен быць значна пашыран у параўнанні з праграмай 1933 г. і таму павінен заняць значна больш часу. План агульнага агляду астаецца ранейшым.

У VIII класе па геаграфіі вучні павінны будуць прайсці:

а) у першым поўгоддзі—фізічную геаграфію СССР цалкам і ў пашыраным аб'ёме, бо яна павінна праходзіцца ў VII класе.

б) У другім поўгоддзі—эканомгеаграфію СССР.

Пры выкладанні геаграфіі ва ўсіх класах трэба звярнуць асаблівую ўвагу на веданне геаграфічнай карты.

Праграма па фізіцы зменена ў тым напрамку, што курс фізікі ўдакладнен, матэрыял перасунут у сувязі з тым, што фізіка пачынаецца не ў пятым, а ў шостым класе.

Настаўнікі павінны дасканала аўладаць праграмай і зразумець усе тыя папраўкі, якія ў яе ўнесены. Трэба каб змест прападнасімага матэрыялу вучням быў абсалютна ясным для настаўнікаў. Гэта патрабуе вялікай, упартай работы ад настаўніка. Толькі сістэматычнай штодзённай падрыхтоўкай да лекцый, сістэматычнай работай над падвышэннем свайго ўзроўню, мы вырашым задачы падняцця якасці работы школы на ўзровень задач, пастаўленых перад ёй нашай партыяй. Гэты год павінен з'явіцца годам канчатковай ліквідацыі карэннага недахопу ў рабоце нашай школы.

*М. Мерман*

# Ваенна-палітычная работа ў школе і піонер-арганізацыі

В. І. Ленін, гаворачы аб задачах падрастаючага пакалення, указаў, што „іменна ёй, гэтай моладзі, прадстаіць закончыць, завяршыць справу комунізма, іменна ёй яшчэ прадстаяць баі за комунізм, і яна гэтыя баі павінна сустрэць моцнай, здаровай, з стальнымі нервамі і жалезнымі мускуламі“.

Асноўнай задачай ваенна-палітычнай работы сярод дзяцей з'яўляецца выхаванне **актыўнага ўдзельніка абароны соцыялістычнай радзімы,** выхаванне піонераў і школьнікаў у духу безгранічнага давер'я к Комуністычнай партыі і адданасці дыктатуры пролетарыята. Выхаваць кожнага піонера і школьніка вынослівым, лоўкім, смелым, меткім і наглядальным, прывіць ім суму элементарных навыкаў і ведаў з розных абласцей сучаснай ваеннай тэхнікі—асноўны напрамак абарончай работы. Абарончая работа павінна разглядацца „як асноўная частка ўсёй праблемы комуністычнага выхавання нашага падрастаючага пакалення—грамадзян Вялікай савецкай краіны“. (Эйдэман.)

Абаронча работа сярод нашых дзяцей карэнным чынам адрозніваецца ад ваеннага абучэння ў буржуазных школах. Буржуазія пачынае муштраваць дзіця з першых крокаў яго свядомага жыцця, заражае яго контррэволюцыйным нацыяналізмам, рэлігійным фанатызмам, патрыятызмам і пакорлівасцю перад „богам, каралём і гаспадаром“.

* * *

Асоавіяхім, арганізуючы работу гурткоў ЮДА (юных прыхільнікаў Асоавіяхіма), шырока прыходзіць на дапамогу школе і піонерарганізацыі ў разгортванні абаронча работы. Аб'ём і формы абаронча работы павінны выходзіць з узросту дзяцей.

Абаронча работа павінна быць неадрыўнай часткай агульнай сістэмы сістэматызаваных асноў навук і дапамагчы ў аўладанні тэхнікай ваеннай справы нашым падрастаючым пакаленням. Абаронча работа павінна накіроўваць мысль дзяцей на вынаходніцтва.

Гурток не павінен быць адзінай формай абаронча работы. Павінна быць рознастайнасць форм з карыстаннем, у першую чаргу, элементаў ваеннай ігры. Ваенная ігра вельмі захапляе дзяцей і прадстаўляе сабой неабмежаваны запас магчымасцей уздзеяння на дзяцей у выхаванні волі, находчывасці, вынослівасці, бадзёрасці, смеласці і інш. бакоў характару поўнацэннага актыўнага будаўніка соцыялізма і яго абароны ад ворагаў. Аднак, як гурток, так і іншыя формы абаронча работы павінны сваёй мэтавай устаноўкай мець наступнае: падрыхтаваць людзей гатовых да абароны з акрэсленым кругам ведаў і ўменняў.

З якіх-жа элементаў павінна складацца абарончая работа як у школе, так і ў піонерскай арганізацыі?

У першую чаргу павінна праводзіцца рэгулярная палітінфармацыя аб падзеях міжнароднага жыцця, выкрыццё ўсіх інтэрвенцыяніцкіх замыслаў імперыялістаў і ўсёй эканамічнай, і ваеннай, і псіхалагічнай падрыхтоўкі, якая праводзіцца ў капіталістычных краінах. Трэба выхаваць у нашых дзецях сазнанне таго, што

„адзіны шлях да збаўлення ад жахаў вайны заключаецца ў рэволюцыйнай барацьбе за соцыялізм". (Ленін.)

Для правядзення палітінфармацый трэба скарыстаць кіно, дыяпазітывы, плакаты, пастаноўкі, насценгазету, экскурсію. Гэта даступна і ў школе, і ў лагеры. і на дзіцячай пляцоўцы. Такія палітінфармацыі мы раім пачынаць з V класа НСШ. У малодшых класах НСШ і пачатковай школе неабходна абмежавацца жывым, красачным расказам гісторыі грамадзянскай вайны, барацьбы Чырвонай арміі і інш. Гэту работу важна праводзіць у дні рэволюцыйных свят.

Дзеці надзвычайна цікавяцца геранчнымі подвігамі і дзіўнымі эпізодамі ў гады грамадзянскай вайны. Ад гісторыі Чырвонай арміі трэба пераходзіць да яе сёнешняга дня з яе тэхнікай, жыццём і вучобай. Дзецям трэба паказаць

„як з краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны, Савецкі саюзператварыўся ў краіну магутную, гатовую да ўсякіх выпадковасцей, у краіну, здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя аруддзі абароны і забяспечыць імі сваю армію ў выпадку нападзення зьне". (Сталін.)

Трэба паказаць розніцу паміж царскай і капіталістычнай арміямі—арміямі муштры і аруддзя закабалення тысяч працоўных мас і Чырвонай арміяй—школай, якая рыхтуе барацьбітоў за соцыялізм, якая прымяняе метад соцыялістычнага спаборніцтва з камандзірамі—таварышамі чырвонаармейцаў.

Гурткі юных прыхільнікаў Асоавіяхіма арганізуюцца, згодна палажэння аб іх, піонерскім атрадам сумесна з школай і прадугледжваюць тры ўзросных групы: 8—9 год; 10—11 год; 12—15 год. Зусім зразумела, што ад больш простых элементаў для малодшых, трэба пераходзіць да больш складанага зместу для старэйшых узростаў дзяцей. Пералічым гурткі, якія могуць быць арганізаваны пры піонератрадах з мэтай правядзення ваенна-выхаваўчай работы і кароткі змест самой работы. Мы, аднак, папярэджваем, што не можа быць адзінай праграмы для работы ў гэтых гуртках, за межы якой выхад сурова забаронен. Праграмы і змест работы гурткоў павінны змяняцца ў залежнасці ад ступені схільнасці дзяцей, іх падрыхтаванасці і праяўляемага інтарэсу. Могуць праводзіцца камбінаваныя заняткі розных гурткоў, бо ў змесце іх работы ёсць многа агульных пунктаў.

Гурток юных авіямадэлістаў. Авіямадэлізм сярод школьнікаў і піонераў Савецкага саюза заняў у апошні час ганаровае месца і з'яўляецца любімым заняткам дзяцей. Авіямадэльная справа развіваецца па трох ступенях: ад мадэлі к планеру, ад планера да самалёта. Штогодна авіямадэлісты праводзяць усесаюзныя злёты, на якіх падводзяць ітогі сваёй работы і дэманструюць свае дасягненні. У рэзультаце падрыхтоўкі к V Усесаюзнаму злёту ў гэтым годзе—авіямадэлісты Макараў (Заходняя Сібір) і Леўчанка (Башкірыя) паставілі сусветныя рэкорды. Авіямадэлісты выхавалі ў сваім асяроддзі буйных работнікаў

авіяцыі (вядомы канструктар Якаўлеў і інш.), якія цяпер працуюць у ЦАГІ—гэтым навуковым штабе чырвонага паветранага флота.

Юныя авіябудаўнікі не толькі добра ведаюць будову і прызначэнне асобных частак лётаючых апаратаў, не толькі слепа капіруюць іх, але самі канструіруюць, авалодваюць навыкамі работы з рознымі інструментамі і над рознымі матэрыяламі, вучацца самі і чытаць і чарціць тэхнічныя чарцяжы. Авіямадэлізм—шлях да шырокага аўладання тэхнікай і навукай наогул. Зусім зразумела, што авіямадэліст павінен добра вучыцца па ўсіх дысцыплінах і вельмі добра па матэматыцы, фізіцы, хіміі, вывучаць элементы метэаралогіі, г. зн. павінен быць перадавым ударнікам вучобы.

ЮАСы (юныя авіябудаўнікі) знаёмяцца ў сваім гуртку з роляй паветранага флота, яго значэннем у санітарным і гаспадарчым жыцці (сяўба, лясныя пажары, санітарная авіяцыя), з гісторыяй паветраплавання, самастойна будуюць монгольф'ер, пабудова і запуск якога вельмі простыя, але эфект ад палёту вялікі і выклікае агромны інтарэс. Авіямадэлісты вучацца будаваць і запускаць паветраныя змеі, вывучаюць тэорыю палёту. Дзеці акцябрацкага ўзросту могуць знаёміцца з авіяцацкамі, якія пабудаваны гурткоўцамі, нарэшце, пабудова лятаючых мадэлей самалётаў з'яўляюцца асновай работы гуртка ЮАС.

Стралковы гурток. Мы не можам ставіць мэтай падрыхтоўкі высокакваліфікаванага стралка, аднак, кожны ўдзельнік гуртка павінен у рэзультаце работы ў ім, здаць нормы на значок ЮВС (юны варашылаўскі стралок). Малодшыя групы гурткоўцаў сканцэнтроўваюць сваю работу на кіданні мяча ў цэль, стральбе з лука і арбалета. Старэйшыя— на стральбе з дробнакалібравай вінтоўкі. Сам момант стральбы дае многае для выхавання працоўнай дысцыпліны, меткасці і глазамеру ў дзяцей. Стральба праводзіцца паслядоўна: у ляжачым стане, у сядзячым, з калена і стоячы. Гэта дае магчымасць засвоіць тэхніку стральбы. Да тэарэтычнай часткі для старэйшых дзяцей (14—16 г.) можна аднесці вывучэнне матэрыяльнай часткі вінтоўкі, будову баявога патрона, дальнасць палёту пулі, як робіцца выстрал, палёт пулі ў паветры, памылкі пры прыцэльванні. Натуральна, што і тут, як і пры рабоце любога іншага гуртка, знаходзіцца такі матэрыял, які замацоўвае школьныя веды па адпаведных дысцыплінах (фізіка, механіка, матэматыка).

Дасягненне высокай якасці вучобы павінна быць асноўнай задачай у рабоце школы. Але іменна высокай якасці школьнай работы і выкананню вучэбных праграм усямерна садзейнічае пазашкольная работа, якая дзякуючы сваёй рознастайнасці з'яўляецца добрым дапаможнікам матэматыку, хіміку, прыродазнаўцу, географу і т. д.

Гурткі турызму, тапаграфіі і маскіроўкі. У гэтых гуртках вучацца чытаць карту, вывучаюць компас, робяць самастойныя перспектыўныя здымкі, рысуюць рэльеф мясцовасці, вывучаюць элементы краязнаўства— дарогі, рэкі, лясныя масівы і іх прахадзімасць, ваенна-інжынерную справу, рамонт мастоў, канструіраванне маскіровачна-наглядальных пунктаў у выглядзе пнёў, стагоў сена, кустоў, гнёздаў на дрэвах і т. д.

Гурток ЮПА па сувязі. Сувязь мае вялікае значэнне ў справе абароны краіны. У гуртку павінны быць вывучаны ўсе сродкі сувязі, як тэхнічныя (электрасродкі сувязі—тэлефон, тэлеграф, радыё, сігналізацыя сцягамі, геліяграфам, лямпамі, ліхтарамі, свістком, гудком, сірэнай, гарном, умоўнымі перайма льнымі гукамі і крыкамі), так і нетэхнічныя (паштовыя сродкі сувязі, пасыльныя сабакі, галубы і т. д.). Дзеці павінны ведаць абавязкі пасыльнага, сігналіста, службу дзяжурнага каля тэлефоннага апарата, азбуку Морзэ. Гэты гурток павінен падрыхтоўваць людзей для службы сувязі на пастах ВНОС (паветранае

наглядание, апавяшчэнне і сувязь), пры арганізацыі процiпаветранай абароны (ППА) тылу. Вывучаючы, напрыклад, тэлефон і сустракаючыся з пытаннямі: 1) як працуе тэлефон і догляд за ім, 2) электрычнасць на службе тэлефона, 3) мікратэлефонны апарат, 4) тыпы палявых тэлефонаў, 5) тэлефонная лінія і як яна пракладаецца, 6) што такое цэнтральныя камутатары, 7) рамонт і ахова тэлефоннай лініі, 8) як падслухаць тэлефонны разгавор і барацьба з падслухваннем і т. д., дзеці паглыбляюць свае веды па адпаведных раздзелах фізікі.

Гурток ППА—ваеннай хіміі. Тав. Р. П. Эйдэман сказаў: „Ні адной школы, ні аднаго малодшага класа не павінна быць без мадэльнага гуртка, але не павінна быць ні адной школы, дзе-б у старшых класах не былі створаны групы ППА“.

Работа па ваеннай хіміі і ліквідацыя няграматнасці ППА павінна з'явіцца адной з важнейшых задач школы. Будучая вайна пагражае насельніцкім пунктам налётамі непрыяцельскай авіяцыі, якая будзе раскідваць аэрахімбомбы з трывалымі і нетрывалымі БАМ (баявымі атручваючымі матэрыямі). Небяспека ад паветранага нападу праціўніка і ад узнікаючай пры гэтым панікі вельмі вялікая. Пагалоўная ліквідацыя няграматнасці ППА ў школьнікаў з'яўляецца надзвычайна неабходнай. Школа можа і павінна адыграць значную ролю як у арганізацыі насельніцтва пры паветраным нападзе, так і арганізавана правесці сваю ўласную абарону.

Піонеры і школьнікі старшых класаў сярэдняй школы могуць быць арганізаваны ў групы самаабароны, якія ствараюцца Асоавіяхімам, каб быць гатовымі да сустрэчы праціўніка з паветра і ліквідаваць вынікі паветранага налёту. Элемент падрыхтоўкі па ППА пачынаецца з піонерскага ўзросту (9 год), г. зн. з трэцяга класа і на працягу чатырох год дзеці вывучаюць правілы асабістых, дысцыплінаваных паводзін пры паветраным налёце, вывучаюць процівагаз, з'яўляюцца праваднікамі ідэй ППА ў сям'і і сярод акаляючага насельніцтва. Дзеці старшых класаў абучаюцца выкананню практычных абавязкаў разведчыкаў, звязістаў, наглядальнікаў, дэгазатараў, падачы першай дапамогі і т. д. Гэты гурток вельмі карысны для аб'яснення цэлага раду работ, паказаных намі на іншых гуртках, апрача таго, работа па ППА можа і павінна працякаць у сувязі з асобнымі вучэбнымі дысцыплінамі (фізіка, хімія, фізкультура, прыродазнаўства з элементамі анатоміі і фізіялогіі, заалогіі і метэаралогіі). Рад метэаралагічных прыбораў (ветрамер, вымпель і інш.) могуць быць зроблены дзецьмі зусім самастойна. Сельская школа можа выкарыстаць хату-чытальню і дом абароны для правядзення ліквідацыі няграматнасці ППА і арганізацыі каманд ППА. Гэтыя каманды могуць у мірны час праводзіць пратручванне насення, праводзіць барацьбу з сельскагаспадарчымі шкоднікамі, садзейнічаюць выкананню рашэнняў партыі і ўрада аб падняцці ўраджайнасці. Але ўся гэтая работа павінна быць падпарадкавана навучальным і выхаваўчым мэтам школы. Мысль дзяцей гэтага гуртка трэба накіраваць на адшуканне лепшых і даступных метадаў дэгазацыі, прымяненне новых дэгазацыйных матэрыялаў, на вывучэнне газаапрадзяліцеля Пракоф'ева, які прымяняецца ў цяперашні час на адшуканне больш дасканалых індыкатараў для апрадзялення газаў. Працуючыя ў гэтым гуртку могуць, прыблізна, па наступнай схеме вывучаць увесь круг пытанняў, звязаных з ліквідацыяй няграматнасці ППА.

1. Уясненне ролі авіяцыі і хімічнай зброі ў будучай вайне. Тут праводзіцца азнаямленне з ростам авіяцыі, тыпамі самалётаў, ростам хімічнай прамысловасці.

2. Азнаямленне з АМ, іх фізіка-хімічнымі ўласцівасцямі і баявым прымяненнем (хлор, фасген, сінільная кіслата, вокіс вуглерода, хлорпікрын, іпрыт і інш.), іх дзеяннем на арганізм чалавека і жывёл, першая дапамога пры паражэннях імі.

3. Прымяненне дымаў у ваеннай справе, дымаўтвараючыя матэрыі.

4. Прызначэнне ў ваеннай справе запальваючых знарадаў і матэрыялаў, з якіх яны вырабляюцца.

5. Вывучэнне метадаў і спосабаў калектыўнай і індывідуальнай абароны (процівагаз і трэніроўка з ім, распаўсюджванне ДП (дзіцячых процівагазаў), газаўбежышчы і правілы паводзін у іх, абарончыя касцюмы і т. д.

6. Роля метэаралогіі і хімічнай разведкі.

7. Асноўныя метады дэгазацыі.

8. Проціпажарныя і маскіровачныя мерапрыемствы.

9. Інструкцыі на выпадак паветранага налёту працаўніка.

Такавы гурткі ваенных ведаў і прыкладны характар іх работы ў піонератрадзе і школе.

Спынімся, нарэшце, на камбінаваных масавых мерапрыемствах, якія можна правесці ў піонерскім і школьным лагеры. У час правядзення спецыяльных агульналагерных свят—усе вышэйпаказаныя гурткі прадэманструюць дасягненні сваёй работы. Гурток ЮДА хімікаў можа інсцэніраваць паветрана-хімічнае нападзенне і дэгазацыю заражанага ўчастка. Авіямадэлісты могуць прадэманстраваць рад лятаючых мадэлей, пуск мангольф'ераў, карабчатага змея і т. д. Звязісты або юнаты прадэманструюць работу сабак звязістаў, перадачу сігналаў, работу палявога тэлефона і т. д. Можна арганізаваць выстаўку тапаграфічных работ, работ па маскіроўцы, самаробных прыбораў па сігналізацыі, метэаралогіі і рад іншых. Лагерны перыяд наогул вельмі зручны для шырокай ваеннапалітычнай работы. Трэба выкарыстаць усе перавагі лагернай абстаноўкі (лес, рака, поле). У праграме ранішніх зарадак па фізкультуры павінен быць вызначан час для трэніроўкі з процівагазам.

## ВАЖНЕЙШАЯ ЛІТАРАТУРА


1. Матэрыялы аб рабоце Асоавіяхіма сярод дзяцей.
2. Праграмы для гурткоў ЮДА.
3. Криволапов—„Связь в пионерском лагере".
4. Румянцев—„Типография в пионерском лагере".
5. Осадчий—„Военизация в детском досуге".
6. Гароев—„Па следам гражданской войны".
7. Бюлютэнь Ц. С. Саюза асоавіяхіма СССР № 22. 1933 г.

*А. Якімовіч*

# Становішча беларускай дзіцячай літаратуры *

Дзіцячая літаратура як у сэнсе стварэння яе, так і ў сэнсе пашырэння і выкарыстання не мела належнай сур'ёзнай увагі з боку пісьменніцкай і педагагічнай грамадскасці. Зразумела, лішнім будзе даводзіць, што гэты фронт ленінскай культурнай рэволюцыі не з'яўляецца менш адказным, менш значным за іншыя віды і формы савецкай літаратуры як зброі класавага змагання і як аднаго з важнейшых фактараў комуністычнага выхавання падрастаючага пакалення. Погляды адваротнага парадку—шкодныя погляды, адкуль-бы яны ні выходзілі. З другога боку, работа лепшых сучасных нашых пісьменнікаў у вобласці дзіцячай літаратуры ярка сведчыць аб тым, што іхняя творчасць для дзяцей па сваёй ідэйнай і мастацкай якасці стаіць не ніжэй другіх твораў, напісаных імі не для дзяцей. Усе тыя патрабаванні, якія ставяцца партыяй да агульнай літаратуры, у поўнай меры адносяцца і да літаратуры дзіцячай. Нарэшце, усе праблемы, звязаныя з павышэннем якасці нашай агульнай літаратуры, зусім не з'яўляюцца чужымі для дзіцячай літаратуры; наадварот, многія з іх у дзіцячай літаратуры стаяць яшчэ больш востра, як напрыклад: праблемы займальнасці, фабульнасці, героя, мовы і т. д. І гэта зусім правільна, бо тут выяўляецца спецыфіка дзіцячай літаратуры, аб якой таксама забываць нельга. Апошняе палажэнне на першы погляд можа паказацца да некаторай ступені парадаксальным: дзіцячая літаратура—роўнацэнная частка агульнай літаратуры, з аднаго боку, і спецыфічная літаратура з другога боку. Аднак, трэба сказаць з усёй сур'ёзнасцю, што спецыфіка дзіцячай літаратуры заключаецца ні ў якім выпадку не ў зніжэнні літаратурнай якасці, а ў мастацкай прастаце, ва ўменні выбраць найбольш важны і цікавы для дзяцей матэрыял і ярка, высока-мастацкі аформіць яго, улічваючы пры гэтым узрост і псіхалагічныя асаблівасці юнага чытача.

Савецкая дзіцячая літаратура, бясспрэчна, мае вялікія дасягненні. Яна расце і развіваецца разам з ростам агульнай літаратуры. Даволі ўказаць хоць-бы на той факт, што за 9 год свайго існавання беларуская дзіцячая літаратура налічвае звыш 50 арыгінальных твораў і некалькі сот кніг, перакладзеных з іншых моў. Але, падводзячы ітогі росту нашай дзіцячай літаратуры, мы на вялікі жаль не можам заявіць, што гэтыя поспехі і нас і чытачоў цалкам задавальняюць. І асабліва не можа задаволіць нас *якасць* кніг для дзяцей.

Попыт на дзіцячую кнігу і запатрабаванні да яе ў сувязі з грамадска-палітычнай актывізацыяй дзяцей і пашырэннем кантынгента чытачоў (у выніку ўвядзення ўсеагульнага навучання) значна перавышае тое, што мы маем і што можам прапанаваць юнаму чытачу, часамі проста „жаднаму“ да кніг. Сабраныя т. Горкім матэрыялы аб тым, што чытаюць дзеці і якія кнігі яны хочуць чытаць сведчаць аб досыць высокім гра-

---

* Скарочаная стэнаграма выступлення на 1 Усебеларускім з'ездзе савецкіх пісьменнікаў.

мадска-палітычным і культурным развіцці нашых дзяцей, аб іх здаровых мастацкіх густах і запатрабаваннях да кнігі. Гэтыя матэрыялы цалкам пацвярджаюцца і праведзенай работай сярод дзяцей-чытачоў г. Менска.

* * *

У нядаўным мінулым беларуская дзіцячая літаратура мела цэлы рад буйных зрываў і недахопаў, якія, аднак, не ліквідаваны поўнасцю яшчэ і зараз. Былі класава варожыя, буржуазныя нацдэмаўскія ўплывы, з аднаго боку, а з другога—лявацкія, вульгарызатарскія тэорыі і адэкватная іх творчая практыка. Нацдэмаўскія ўплывы былі моцныя асабліва ў першыя гады развіцця дзіцячай літаратуры, калі розным Цвікевічам і К° ўдалося было ў свой час захапіць пад свой уплыў і гэты ўчастак культурнага фронта. Аднак, гэта не значыць, што рэцыдывы нацдэмаўшчыны не паўтараліся і пазней. Праўда, дзякуючы павышанай класавай пільнасці новага кіраўніцтва ДВБ, пераважная большасць варожых нам твораў, падрыхтаваных раней, была ў свой час выкрыта і із'ята з вытворчасці (творы Краўцэвіча, Лужаніна і інш.), аднак, частка з іх усё-ж трапіла ў друк, як напрыклад, „Маёнткі гараць"—Краўцэвіча, „Перамога "—Чарняўскай, „Трактар"—Астапенкі. Зразумела, варожая нам ідэалогія выяўл-на ў гэтых творах у хітра-замаскаванай форме. Так, Астапенка для сваёй кніжкі выбірае вельмі актуальную тэму—апавяданне аб значэнні трактара. Якое-ж значэнне мае для нас трактар паводле Астапенкі? Аказваецца... трактар—вораг каню. Кулацкая агітацыя знайшла яркае выражэнне ў такіх радках, як:

„Гэй, выходзь з дарогі коні!
Узараць нам трэба гоні!"

Або:

„У асенні чысты ранак
З хлебам пяць цяжкіх фурманак
Цягне гужам ён адразу
ў горад з роднага калгаса".

Наогул-жа, апрача шкодных установак, „Трактар"—кніжка даволі халтурная. Вось некаторыя прыклады:

„Павазіў снапы ўжо трактар
і зрабіўся малатаркай".

Прычым, „трактар" і „малатарка"—не што іншае, як „мастацкія" рыфмы.

„То—камбайн цяжкой хадою
За сабою цягне трактар".

Дашкалятам прападносіцца рэбус: хто каго цягне? І далей:

„На палях гуляе замяць
Каля ціхае дубровы".

Чаму дуброва ціхая, калі гуляе замяць?

У кніжцы Чарняўскай—„Перамога" расказваецца пра жанчыну, якая працуе ў папа за наймічку і прымушае прыслужваць папу свайго сына-піонера. Паводле твора атрымліваецца так, што гэта адзіны выхад для беспрацоўнай жанчыны—героя „Перамогі". Зразумела, тут яўнае скажэнне нашай савецкай рэчаіснасці. Даволі ўказаць хаця-б на той факт, што ў той час, калі кніга пісалася і друкавалася, мы ўжо не мелі ў Савецкім саюзе біржы працы.

Лявацкія, вульгарызатарскія ўстаноўкі і творы асабліва пашыраліся ў дзіцячай літаратуры ў рэканструкцыйны перыяд. Як вядома „левакі"

ў педагогіцы ў сваіх „вучоных“ разважаннях дайшлі да „адмірання школы“. Школа—гэта, бачыце, буржуазны перажытак. Дзеці вучацца на ўласным вопыце і т. д. Адсюль кніга, нават падручнік—лішнія атрыбуты, замест сталага курса ведаў пашыраўся, так званы, „метад-праектаў“, праз які можна найбольш выявіць „уласны вопыт“. Гэтыя пражэкцёрскія тэорыі знайшлі сваё адлюстраванне і ў практыцы па выданню кніг для дзяцей. На дзіцячую кніжку пачалі глядзець, як на нешта лішняе, па крайняй меры нязначнае. З дзіцячай літаратуры выпалі цэлы рад найважнейшых тэм: гісторыя, прырода, геаграфія. Выпалі асобныя жанры—казка, драматургія, сатыра і т. д. Адным словам, дзіцячыя інтарэсы і асаблівасці юнага чытача ігнарыраваліся. З другога боку, у дзіцячай літаратуры запанаваў у пераважнасці нарыс аб соцбудаўніцтве, прытым нарыс нізкай мастацкай якасці. „Уклонение от индустриальной тематики рассматривалось как бегство от современности“. (В. Лядова, „Правда“.) Зразумела, тэматыка нашай сучаснасці з'яўлялася і з'яўляецца вядучай і ў дзіцячай літаратуры. Аднак, нельга-ж забываць і таго, што *„комуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць ведамі ўсіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва“*. (Ленін.) І гэтыя ясныя ўказанні правадыра былі забыты многімі кіраўнікамі, адказнымі за справу выхавання дзяцей.

Якую-ж каштоўнасць маюць надрукаваныя нарысы? Вельмі невялікую. Безумоўна, справа тут ідзе не аб нарысе, як жанры. Усякі жанр добры, калі пісьменнік здолее ў ім найбагацей, глыбей, праўдзівей і больш мастацкі аформіць свае думкі, ідэі, вобразы. Сярод кніг гэтага жанру ёсць і вельмі добрыя кнігі—„План вялікіх работ“, „Кара-Бугаз“, „Большэвікі адкрылі Сібір“ і інш. Гэтыя кніжкі па заслугам сталі любімымі кніжкамі ў дзяцей. Значыць вінавата не форма, і тым больш не тэматыка, а нешта іншае. „Прыродзе дзіцяці ўласціва імкненне да яркага, незвычайнага. Незвычайным і яркім у нас у Саюзе з'яўляецца тое новае, што стварае рэволюцыйная энергія рабочага класа. Вось на гэтым неабходна замацоўваць увагу дзяцей, гэта павінна быць галоўнейшым матэрыялам іх соцыяльнага выхавання. Але аб гэтым трэба расказваць, гэта трэба паказваць таленавіта, умела, у формах лёгка засваяемых“. (М. Горкі.)

Уся бяда ў тым, што многія нашы некваліфікаваныя пісьменнікі, а таксама выпадковыя ў літаратуры людзі ўхапіліся за нарыс, як лягчэйшую форму, па-свойму зразумелі нарыс як звычайны крыклівы артыкул, дзе павінна быць шмат клічнікаў, лічбаў, лозунгаў і т. д. У такім стылі напісаны „УКК“—Ляшэвіча, „Гомсельмаш“—Волкава, „Шоўк з дрэва“—Доўгапольскага, „Фабрыка Окцябр“—Дыла. „Асінстан“—Барашкі. Ніаднаго жывога цікавага факта не знойдзеш у гэтых кнігах, апрача ведаў чыста прыкладнага характару. І зразумела, гэтыя кніжкі не могуць выклікаць эмоцый і заразіць юнага чытача пафасам вялікага соцбудаўніцтва, не клічуць яго на барацьбу і перамогу. Многія фабульныя кніжкі вызначаліся схематызмам, спрашчэнствам, антымастацкасцю. Прыкладам гэтага могуць служыць „Дзеці“—Кіпера, „Сталёвы конь“—Чарняўскай і інш. „Такая звычайная з'ява, як расходванне зусім нязначных сродкаў за права карыстання кватэрай у Антона Рыгоравіча выклікала значныя сэрцаўздрыгі“... У такім стылі напісана кніжка „Дзеці“—Кіпера.

У некаторых творах прапагандавалася своеасаблівая, чыста лявацкая „політэхнізацыя“; дзеці, нават дашкаляты, героі гэтых твораў, вымушаны працаваць да сёмага поту ў розных установах, на фабрыках, выконваць цяжкую фізічную работу („Ударныя брыгады“—Кагаяоўскай, „Працоўныя мазалі“—Чарняўскай).

Праўда, гэта не значыць, што ўсе кніжкі былі дрэнныя. Аднак,

якасць большасці кніг была вельмі нізкай. І зусім зразумела пасля гэтага, чаму многія дзеці сталі „баяцца“ трактара, прытым не таго трактара, які яны штодзённа бачаць і які іх вельмі цікавіць а таго, што на малюнку...

„Бібліятэкарша даводзіць, што кніжка цікавая, а мы паглядзім на малюнкі і толькі рукамі адмахваемся. Ведаем—трактар... Не ашукаеш!“—пішуць у адным пісьме піонеры-чытачы Горкаму.

Зусім класічна гучыць патрабаванне дзяцей, выражанае імі ў лісце да Горкага: „Дайце здарэнні, а не апісанні“. А наша літаратура не магла пахваліцца гэтымі здарэннямі.

І зусім невыпадкова ЦК ВКП(б) выносіць у снежні 1931 г. вядомую рэзалюцыю па дакладу аб „Молодой гвардии“, дзе ясна і канкрэтна ўказана, якой павінна быць кніга для дзяцей. Гэтая рэзалюцыя прымусіла і выдавецтвы і пісьменнікаў распачаць сур'ёзную работу па стварэнню новай совецкай кнігі для дзяцей. ЦК партыі з асаблівай сілай падкрэсліў значэнне яркай і вобразнай формы, неабходнай для кожнай дзіцячай кніжкі. Па ідэалагічнай накіраванасці дзіцячая кніжка павінна быць „большэвіцкі бадзёрай, заклікаючай на барацьбу і перамогу“.

Неаднаразовыя выступленні ў друку аб дзіцячай кнізе тт. Горкага, Стэцкага, Крупскай, пастановы ЦК аб піонерарганізацыі, аб школе, нарэшце, гістарычная пастанова ад 23 красавіка—усе гэтыя мерапрыемствы зрабілі вялікі пералом у вобласці дзіцячай літаратуры.

Ачысціўшыся ад буржуазнай нацдэмаўшчыны і лявацкіх уплываў, беларуская дзіцячая літаратура пачынае ўзбагачацца новымі творамі высокай ідэёва-мастацкай якасці.

* * *

Якое-ж становішча ў беларускай дзіцячай літаратуры мы маем к часу I Усебеларускага з'езда совецкіх пісьменнікаў? Што перш за ўсё кідаецца ў вочы, калі праглядаеш зараз нашы кнігі для дзяцей? На мой погляд—гэта беднасць тэматыкі. Нашы актыўныя чытачы з самымі рознастайнымі інтарэсамі не змогуць шмат чаго знайсці ў нашай арыгінальнай і неарыгінальнай літаратуры. Што мы можам прапанаваць ім па гісторыі з арыгінальнай літаратуры. Адна кніжка Маўра „Чалавек ідзе“ і тая з сюжэтам дагістарычнага перыяду (кніжка, безумоўна, карысная і цікавая). Тое-сёе можна назваць з кніжак пра грамадзянскую вайну. Уся ж сярэдзіна гісторыі, пачынаючы ад першабытнага чалавека і да грамадзянскай вайны ўключна, выпала з беларускай дзіцячай літаратуры.

Што можна прапанаваць рэбятам па геаграфіі? Тут мы зноў пакуль што бездапаможныя. „Палескія рабінзоны“—Маўра і элементы геаграфізма ў другіх яго кнігах—вось і ўсё. „Палескія рабінзоны“—адзіная кніжка, напісаная на мясцовым геаграфічным матэрыяле, кніжка, якая праз займальную прыгодніцкую форму знаёміць чытача з запаведнікам у Палессі, з флорай і фаунай, характэрнай для гэтай мясцовасці. Аўтар удала выкарыстаў традыцыйную робінзанаду, стварыў вострую інтрыгу; кніжка стала любімай дзіцячай кніжкай. Дзеці праходзяць міма нават штучных тэндэнцыёзных прыёмаў, густой, дыдактычнасці, якія ўласцівы гэтай кніжцы нават больш, чым другім кнігам Маўра. Напрыклад, узяць хоць-бы самы выбар герояў. Мірон і Віктар скончылі сямігодку. Адзін з іх аказваецца „сапраўдным прафесарам“ заалогіі, другі—батанікі. А сакрэт гэтага вельмі просты: аўтару трэба пазнаёміць чытача з флорай і фаунай Палесся. Хлопцы—героі не толькі перажываюць вострыя сітуацыі, яны тут-жа на кожным кроку чытаюць адзін другому лекцыі, адрасаваныя непасрэдна чытачу кнігі.

„СССР мяжуе з Польшчай, Румыніяй, Кітаем, Японіяй, Персіяй, Фінляндыяй, Эстоніяй“.

Тут вучань назваў 7 дзяржаў з агульнай колькасці 11, якія гранічаць з СССР. Але ён іх пералічыў без патрабуемага парадку. А ў выкладанні геаграфіі гэты парадак, безумоўна, адыгрывае вялікую роль: называць без геаграфічнай паслядоўнасці—гэта значыць не ведаць карты. Пералічэнне геаграфічных назваў без арыентацыі на карце з'яўляецца яркім прыкладам механічнасці ў вывучэнні геаграфіі.

б) Наступны пункт праграмы, які вучні засвоілі добра—гэтка веды аб узвышшах, нізінах і горах СССР. З 49 заданых пытанняў па данаму пункту толькі 7 вучняў адказалі няправільна або недакладна. Вучні выявілі добрую арыентацыю па карце. Яны хутка знаходзілі Сярэдне-Рускае ўзвышша, Прыволжскае, Данецкі край, Уральскія і Каўказскія горы. Слабей вучні ведаюць аб Азіяцкіх горах, якія яны не ўмеюць знаходзіць на карце і груба блытаюць.

Горш абстаіць з ведамі аб рэках СССР. Вучні знаходзяць патрабуемую раку па карце, але пры гэтым выяўляюць шмат недакладнасцей, якія сведчаць аб няправільнай пастаноўцы вывучэння данага раздзела праграмы. Вучні не навучыліся паказваць раку з самага пачатку да вусця. Яны пачынаюць паказваць раку з сярэдзіны, асабліва з таго месца, дзе рака на карце адзначана тоўстай лініяй. Больш таго, яны паказваюць раку ўверх супроць цячэння. Так, вучань пачынае Волгу з прытока Малогі або з Шэксны, раку Об блытаюць з Іртышом, раку Днепр паказваюць пачынаючы ад гор. Оршы. Таксама вучні блытаюць месцазнаходжанне рэк: „Днепр пачынаецца з Уральскіх гор“ або Паўночная Дзвіна ўпадае у Чорнае мора“, „Дон упадае ў Чорнае мора“ і т. д.

в) Вывучэнне прыродна-кліматычных зон СССР з'яўляецца вельмі важнай часткай курса IV класа. Вучні павінны атрымаць вобразнае прадстаўленне прыродных умоў у паасобных частках Саюза. Наш СССР ляжыць на самых рознастайных кліматычных зонах. Палярная зона з яе вечнымі ільдамі, так-жа захапляе вучняў, як і падтрапічная зона з яе пальмамі або пустыня з голымі, пясчанымі барханамі, з раскіданымі дрэвамі—саксуаламі.

Як вучні засвоілі гэты раздзел праграмы? Нас павінна цікавіць, ці атрымалі і замацавалі вучні правільныя прадстаўленні аб паасобных зонах і ў якой ступені. У адказах вучняў мы бачым многа павярхоўна-фармальнага засваення без сапраўды багатых прадстаўленняў аб даных зонах. Мы вельмі рэдка чулі ў адказах вучняў кароткія апавяданні аб данай зоне, у якіх былі-б абрысаваны некаторыя характэрныя рысы. Адказы вучняў характарызуюцца сухасцю, адрывістасцю, частай блытанінай. Адказ часта з'яўляецца, так сказаць, вымучаным і выпадковым.

Вось як вучань 3-й школы адказвае пра прыроду Крыма:

„Па прыродных умовах Крым не асабліва багаты; больш багаты Каўказ, дзе растуць персікі, абрыкосы“. І ўсё. На ўсе запытанні вучань больш нічога не адказаў. Мы маем тут прыклад зусім бедных прадстаўленняў аб падтрапічнай зоне. Вучань не расказаў ні аб горах, ні аб пабярэжжы Крыма, ні аб раслінасці. Аб зоне стэпаў і леса-стэпаў вучань адказвае так:

„Зона стэпаў і леса-стэпаў—тут праводзяць вялікую работу па абваднению палёў. Выкарыстоўваюць для гэтага Волгу“.

Замест прыроднага апісання вучань нешта сказаў з эканамічнай галіны і на гэтым закончыў. І настаўніца такім адказам задаволілася. Тут мы бачым бедныя прадстаўленні вучняў: ніводнага слова аб рэўніне, аб бязлессі, травах, культурных раслінах. Няведанне фізічных фактаў вучні засланяюць некаторымі момантамі эканамічнага характару. Тут

прычына, галоўным чынам, у характары выкладання данага раздзела ў школе. Той факт, што ў час іспытаў настаўнік здавальняецца адрывістымі, няяснымі адказамі аб зонах—сведчыць аб сухасці выкладання гэтых пытанняў у класе.

Найбольш папулярнымі зонамі ў школе з'яўляюцца: палярная зона, зона тундры і тайгі. Аб іх вучні маюць лепшыя прадстаўленні. Аб іх вучні чытаюць кніжкі. Усе вучні ведаюць аб гераічнасці чэлюскінцаў і самі марацць быць удзельнікамі вялікіх даследванняў Паўночнага марскога шляху. Зразумела, гэтымі зонамі вучні больш цікавяцца.

Але і тут мы бачым шмат прабелаў у ведах вучняў. Прадстаўленні вучняў не павінны быць расплывучатымі, хаатычнымі: яны павінны быць уложаны ў граніцы чоткага аб'ёма ведаў. Фактычна-ж мы маем прыклады блытаніны. Частка вучняў змешвае ўсе гэтыя зоны ў адно расплывучатае прадстаўленне аб далёкай, халоднай Поўначы. З прычыны гэтага „паласа хвойных лясоў пападае ў тундру“, „Тайга ідзе за палярнай зонай“ (а не за тундрай), аб тундры вучань можа сказаць толькі, што „там халодны клімат“ і што алень жыве ў тундры толькі таму, што „ён прывык да холаду“. „Палярная ноч на Новай зямлі—два месяцы, а ў тундры—6 месяцаў“ (хоць тундра знаходзіцца больш на поўдзень за Новую зямлю). Гэтыя недакладнасці і блытаніна ў паняццях абясцэньваюць часткова тыя прадстаўленні, якія вучні маюць, яны паніжаюць якасць ведаў.

З даследваных школ добрыя рэзультаты паказвае IV клас менскай 14-й школы. Тут вучні выяўляюць злучэнне дакладных ведаў з арыентацыяй па карце, з аднаго боку, і з канкрэтнымі прадстаўленнямі паасобных зон, з другога боку. Возьмем адказы вучняў аб тундры, тайзе і пустыні.

Спачатку вучань дакладна паказвае месцазнаходжанне тундры, а потым звязна расказвае:

„У тундры клімат халодны, зіма суровая, летам холадна, таму, што яна распаложана на поўначы далёка ад экватара. Расліннасць тут рэдкая—імхі, лішайнікі, журавіны, карлікавыя дрэвы; займаюцца людзі паляўніцтвам, рыбалоўствам, аленегадоўляй“ і т. д.

„Тайга—гэта зона хвойных лясоў, тут цяплей, чым у тундры; растуць—елка, сасна, піхта, сібірскі кедр, лісцвеніца. У лясах шмат звяроў. Насельніцтва рэдкае, дзе-ні-дзе займаюцца земляробствам, сеюць жыта, ячмень, авёс—больш усяго тут займаюцца паляўніцтвам. Тут ёсць лесапільныя заводы, ёсць залатыя капальні, напрыклад, у Якуціі“.

„Зона пустынь (паказвае дакладна па карце). Клімат сухі, жаркі. Ападкаў выпадае мала. Зіма халодная, глебы пясчаныя, расліннасць амаль адсутнічае; у аазісах разводзяць на паліўных землях бавоўну, рыс, фрукты. Тут пустыні Каракум і Кзылкум. Жывёльны свет—чарапахі, яшчаркі, павукі, скарпіёны“ і т. д.

У гэтых адказах (а так адказвалі амаль усе вучні данага класа) мы бачым свядомае засваенне і асмысліванне прыродных зон СССР. Гэтых вынікаў школа дабілася іменна тымі метадамі, аб якіх піша пастанова ЦК—„нагляднасцю, даступнасцю, папулярнасцю і цікавасцю выкладання“.

г) Апошні раздзел праграмы геаграфіі IV класа—гэта карта свету. Задача гэтага раздзела—азнаямленне вучняў з геаграфічным палажэннем СССР і галоўных капіталістычных краін на карце свету. Мы павінны даць вучням элементарныя веды па карце аб даных краінах. Вучні павінны арыентавацца, што на зямным шары апрача СССР ёсць капіталістычныя краіны, якія нас акружаюць. Вучні павінны ведаць, дзе гэтыя краіны знаходзяцца і ўмець іх паказаць па карце. Вось і ўвесь

аб'ём ведаў па данай тэме. Але праграма 1933 г. сама ўскладняе гэтае пытанне ўвядзеннем грамадазнаўчых і эканамічных момантаў:

„Ведаць, як няроўнамерна развіты краіны, якімі калоніямі ўладаюць буйнейшыя імперыялістычныя дзяржавы, як яны грабяць працоўных калоній і вядуць войны паміж сабой, і як расце рэвалюцыйны рух у калоніях“ (праграма 1933 г., стар. 49).

Вось гэты абзац і ўвёў блытаніну ў характар прапрацоўкі данага матэрыялу ў школе. Настаўнікі шмат эканамізавалі з вучнямі, губілі шмат часу на разважанні палітыка-грамадазнаўчага характару і, зразумела, менш часу ўдзялялі рабоце над картай. Адсюль мы і маем спецыфічны характар пытанняў і адказаў па данаму раздзелу праграмы. Для ілюстрацыі прыводзім пару прыкладаў.

Настаўнік—Англія—пакажы на карце.

Вучань не ведае.

Настаўнік—Скажы аб калоніях Англіі.

Вучань—Кітай, Іспанія.

Настаўнік—Расскажы, што ведаеш пра Англію.

Вучань—Англія краіна капіталістычная. Там рабочыя жывуць дрэнна. Там эканамічны крызіс. Галоўны горад Лондан.

Настаўнік—Пакажы Лондан.

Вучань шукае і не знаходзіць.

Настаўнік—Гавары далей.

Вучань (маўчыць, потым пры дапамозе настаўніцы)—Там вялікая прамысловасць (I школа).

Другі прыклад з іншай школы.

Настаўнік—Францыя—пакажы.

Вучань паказвае недакладна.

Настаўнік—Як развіта прамысловасць?

Вучань маўчыць.

Настаўнік—Яе ўладанні?

Вучань маўчыць.

Настаўнік—Ну, пасля вайны трэба сказаць, Францыя разбагацела, атрымаўшы Эльзас-Латарынгію багатую золатам. Да імперыялістычнай вайны была не асабліва моцнай. А зараз?

Ну, што зараз ва Францыі?

Вучань—Крызіс, таму, што ўся вытворчасць бесплянавая.

Настаўнік—Якая яшчэ там прамысловасць?

Вучань—Ва Францыі здабываюць нафту.

Настаўнік—Там нафты няма (3 школа).

Мы прывялі даслоўна запісаныя запытанні і адказы на іспытах па раздзелу „карта свету“. Яны ясна выяўляюць асноўны недахоп работы па данай тэме. Адсюль і недастатковыя веды вучняў.

Такім чынам, на падставе аналізу матэрыялаў па іспытах мы можам зрабіць некаторыя вывады:

1. Аб'ём ведаў, атрыманых вучнямі, складае 80 проц. праграмнага матэрыялу; ён больш чым аб'ём ведаў мінулага года.

2. Работа гэтага навучальнага года страдае некаторымі істотнымі недахопамі:

а) у рабоце з картай адсутнічаюць дакладнасці пры знаходжанні тых або іншых геаграфічных назваў. Адсюль досыць вялікая блытаніна вучняў па карце;

б) па фізічнай геаграфіі СССР адсутнічае вобразнасць у выкладанні, наяўнасць сухасці і абстрактнасці, і адсюль, непрыстасаванасць выкладання да інтарэсаў дзяцей данага ўзросту. У выніку—няяснае зразу-

менне тых або іншых прыродных умоў, той або іншай часткі Савецкага саюза і няўменне звязваць геаграфічныя з'явы паміж сабой;

в) па агляду карты свету—перагрузка вучэбнага матэрыялу палітыка-эканамічнымі разважаннямі, часта зусім няправільнымі, рэзультатам чаго з'яўляюцца агульныя разважанні вучняў і няведанне канкрэтных фактаў.

## II. Мэтадычныя заўвагі да выкладання геаграфіі ў IV класе

Аналіз атрыманага матэрыялу па іспытах ускрыў галоўныя недахопы арганізацыі і метадаў выкладання геаграфіі ў IV класе. Гэтыя вывады ўпаўне пацвярджаюць пастанову ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб выкладанні геаграфіі.

Кіруючыся чоткімі паказаннямі данай пастановы, мы можам зрабіць адпаведныя вывады па метадах выкладання геаграфіі ў пачатковай школе.

### *а) Заўвагі аб рабоце з картай*

Кожны ўрок па геаграфіі павінен праходзіць пры геаграфічных картах, глобусе і іншых наглядных дапаможніках у залежнасці ад тэмы. У дзяцей на руках павінны быць, апрача падручніка, таксама геаграфічныя атласы і контурныя карты. Кожная геаграфічная назва павінна быць знойдзена на карце. Асабліва рэкамендуем выкарыстаць вопыт раду школ (напрыклад, менскай 4-й), дзе вучні дакладна знаходзяць пэўны пункт на картах розных маштабаў.

Як трэба чытаць карту? Па гэтаму пытанню трэба сказаць наступнае: геаграфічныя назвы трэба паказваць дакладна; калі гэта горад, трэба паказаць кружочак і не блытаць з надпісам; калі гэта рака, трэба вадзіць указкай ад самага пачатку ракі да ўсця, паказваючы пры кожным заметным павароце ракі напрамак цячэння (на паўднёва-ўсход, потым рака паварачвае на поўдзень і т. д.); адначасна трэба паказаць прытокі, з якога боку яны ўпадаюць у раку, пры гэтым трэба навучыць вучняў у сваім прадстаўленні стаць тварам па цячэнню і вызначыць, які гэта прыток. Такі навык трэба даць вучню IV класа. Гэтая геаграфічная грамата будзе адыгрываць вялікую ролю ў аўладанні геаграфіяй у старэйшых класах. Наогул трэба сказаць, што тыя навыкі, якія вучні атрымоўваюць *у першых гадах работы з картай*, маюць рашаючы ўплыў на далейшую работу вучняў па геаграфіі ў старшых класах.

Галоўная сутнасць арыентацыі па карце ў IV класе заключаецца ў наступным: кожны аб'ект карты вучні павінны звязваць з іншымі аб'ектамі, больш вядомымі ім. Напрыклад, вучні спачатку засвайваюць палажэнне мораў; а ўжо ведаючы моры, вучні павінны знаходзіць рэкі, упадаючыя ў гэтыя моры. Мы вучым вучняў: рэкі, якія ўпадаюць у Паўночнае Палярнае мора, у Каспійскае мора і т. д. Зразумела, што раку мы звязваем не толькі з морам, у якое яна ўпадае, але і з горамі, узвышшамі або азёрамі, ад якіх яна пачынаецца. Вучні павінны раней ведаць граніцы СССР, а потым па іх лёгка адшукаць, напрыклад, БССР, навучыць дзяцей, што БССР трэба шукаць па заходняй граніцы СССР.

*Такім парадкам мы даем вучням не адрозненыя адзін ад другога элементы геаграфічнай карты, мы звязваем гэтыя элементы, арыентуем адзін па другому і ўтвараем у дзяцей цэласнае ўяўленне карты СССР у межах праграмы.* Больш таго, гэтым мы дасягаем, што ў вуч-

няў выпрацоўваецца, так сказаць, канва геаграфічнай карты, па якой яны пазней у старшых класах змогуць засвоіць больш падрабязныя геаграфічныя веды.

Апрача работы па атласу і па насценнай карце, на ўроку трэба час ад часу правадзіць *самастойныя работы* над картай. Тут трэба падкрэсліць важнае значэнне контурных карт; на іх трэба не толькі рабіць надпісы, як гэта робяць у большасці школ, але практыкаваць і рад іншых работ: абвадзіць рэкі па цячэнню (чарніламі або каляровым алоўкам), абвадзіць граніцы СССР і паасобных рэспублік, адцяніць рознымі колерамі рэспублікі і пакрыць фізічную карту належнымі колерамі нізіны, узвышшы, горы, моры і азёры.

Нельга рэкамендаваць у IV класе чарціць зусім самастойныя карты: не трэба рабіць геаграфічную сетку, з якой вучні мала знаёмы, бо тут траціцца шмат часу, якому не адпавядае атрыманы эфект.

Трэба адзначыць, што апрацаваныя контурныя карты павінны мець чысты, эстэтычны выгляд. Вучняў трэба прывучаць да культурнай работы па карце, таксама як і культурна пісаць у сшытку.

### *б) Ізлажэнне матэрыялу настаўнікам*

Ізлажэнне павінна адзначацца выключнай яснасцю і вобразнасцю. Настаўнік не павінен сам блытаць тэрмінаў, ён павінен гаварыць яснымі выразамі і сказамі і ўжываць у сваім ізлажэнні мастацкія апісанні. Кожны ўрок настаўніка, асабліва па зонах, павінен суправаджацца жывымі апісаннямі прыроды, расліннасці, жывёльнага свету і жыцця людзей; трэба не толькі гаварыць, што ёсць тайга, тундра, але ўтварыць у дзяцей цэльнае прадстаўленне аб даных края. Калі настаўнік сам, магчыма, не можа красачна расказваць, ён павінен ужываць чытанне спецыяльна падобраных вытрымак з мастацкай геаграфічнай літаратуры.

З другога боку, настаўнік не павіненператвараць урок у бесканечнае расказванне. Усе мастацкія творы, якія настаўнік ужывае, з'яўляюцца дапаможнымі да атрымання сумы ведаў, якія настаўнік намеціў на даны ўрок. Апавяданне з'яўляецца не самамэтай, а метадам засваення пэўнага аб'ёма ведаў, метадам вельмі добрым да данага ўзросту вучняў, метадам, які ўзбуджае зацікаўленасць вучняў і дае шмат канкрэтных геаграфічных фактаў.

У часе ізлажэння настаўнік павінен выклікаць паасобных вучняў або даваць вучням слова па іх уласнаму жаданню, каб даць ім магчымасць выказацца. Такі метад выкладання мае вялікія дадатныя бакі:

1) ізлажэнне не будзе марудным для вучняў (як гэта бывае ў малодшых класах, калі настаўнік забываецца і „чытае" лекцыю перад вучнямі;

2) павялічваецца актыўнасць дзяцей пры ізлажэнні: вучні выказваюць свае саабражэнні па данаму пункту, высвятляюць некаторыя няясныя для іх пытанні;

3) настаўнік мае магчымасць паставіць належным парадкам бягучы ўлік ведаў вучняў на даным уроку: ён выяўляе, як вучні зразумелі ізложаны матэрыял, выяўляе тыя моманты, якія ён павінен паўтарыць—каб усё стала ясным для вучняў.

У канцы ізлажэння настаўнік павінен падагуліць увесь матэрыял і фармуляваць перад вучнямі той аб'ём ведаў, якія ён даў за даны урок.

Адносна канспектаў вучняў у IV класе трэба сказаць наступнае: трэба пакончыць з бясконцым пісаннем розных тэкстаў па геаграфіі ў даным класе. Вучнёўскія канспекты (якія, паміж іншым, настаўнікі ніколі не правяраюць) толькі прывучаюць дзяцей да памылак і беспарадкавага

пісання на кавалачках паперы, у чарнавіках і т. д. Такія канспекты вучэбнай вартасці не маюць.

Нарэшце, на працягу ўсяго часу ізлажэння настаўнік павінен трымаць на ўвазе тэкст адпаведнай главы падручніка, якую ён задае вучням на дом; настаўнік павінен дабіцца, каб вучні зразумелі ўвесь тэкст падручніка пры сваёй самастойнай рабоце.

У многіх школах ужываюць у час урока галоснае чытанне артыкулаў з падручніка. Гэта—няправільнае скарыстанне часу настаўніка, бо тут настаўнік замяняе жывое аб'ясненне матэрыялу чытаннем падручніка і гэтым самым уводзіць механічнасць у навучанне. Чытанне падручніка на ўроку трэба давесці да мінімума і рабіць толькі тады, калі вучні ўжо добра падрыхтаваны ізлажэннем настаўніка і калі матэрыял з падручніка мае шмат цяжкасцей.

У заключэнне трэба дадаць: само сабой ясна, што ізлажэнне павінна быць увесь час арганічна звязана з работай па карце; кожную геаграфічную назву, якая сустракаецца пры расказванні або чытанні, трэба зараз-жа знайсці на карце. Карысна нават пры гэтым выклікаць паасобных вучняў да карты і даручаць ім знаходзіць гэтыя месцы.

* * *

Гэтымі заўвагамі метадычнага характару мы заканчваем наш аналіз работы IV класа па геаграфіі за 1933—34 нав. год.

Падрыхтоўка настаўніка да ўрока з'яўляецца рашаючым у сэнсе дасягнення карыснага эфекта. Падрыхтаваць карты, прачытаць геаграфічную літаратуру, геаграфічныя рысункі, выкарыстаць мастацкую літаратуру, а часамі і цікавы газетны матэрыял,—прадумаць метадычна ўсе гэтыя моманты—гэта парука паспяховага правядзення ўрока, зацікаўлення вучняў і свядомага і моцнага засваення вучнямі праграмнага матэрыялу.

*А. Яворскі*

# Як інструктаваць у школьнай майстэрні пры вырабе цэлага прадмета

*(Па матэрыялах практыкі менскіх і маскоўскіх школ)*

*Якім уменням навучаць вучняў.* У выніку навучання ў аб'ёме праграмы палітэхнічнага працоўнага навучання вучань павінен атрымаць уменне і навыкі ўладання інструментамі і механізмамі пры вырабе цэлага грамадска-карыснага прадмета, выкананне асобных аперацый, а таксама навучыцца планаванню і арганізацыі калектыўнай і сваёй працы. Па кожнаму з гэтых пунктаў праграма вызначае аб'ём уменняў і навыкаў. Напрыклад, праграма дае пералік рэчаў, якія павінны выконвацца вучнямі ў V класе: рэкамендуецца рабіць кармушкі, жыллё для дробнай жывёлы, куратнікі, сталы, скамейкі, станкі для сшывання кніг, адвёрткі, вугольнікі, лінейкі і інш. У VI классе даюцца больш цяжкія, больш складаныя аб'екты: навучальныя дапаможнікі, мадэлі геаметрычных фігур, малаткі і інш. У VII класе даюцца яшчэ больш складаныя рэчы. Апрача пераліку прадметаў, на якіх вучні навучаюцца, праграма вызначае аперацыі, якія яны павінны ўмець выконваць. Напрыклад, разметка матэрыялу, пілаванне дрэва па прамой лініі, струганне адзінарным геблем, рэзанне і даўбленне дрэва стамескамі і долатамі, рэзанне нажоўкай метала, рубка зубілам, апілоўка напілкам шырокіх паверхняў.

Згодна праграмы вучань павінен уладаць і правільнымі прыёмамі працы. Ад яго патрабуецца па мажлівасці правільнае трыманне інструмента, правільная стойка пры выкананні аперацый, захаванне тэмпу пры пілоўцы, рубцы, які павінен садзейнічаць нармальнаму развіццю дзіцячага арганізма, садзейнічаць навучанню і выхаванню наогул.

Апрача ўсяго гэтага праграма патрабуе ад вучня некаторых уменняў планіраваць, арганізоўваць і рацыянальна выконваць работу, умення працаваць у калектыве, патрабуе культуры працы, патрабуе ўмення працаваць соцыялістычнымі метадамі і т. д.

Навучанне ўсім пералічаным прыёмам, уменням і навыкам можа праводзіцца вусна, пісьмова, дэманстрацыйным шляхам. У адпаведнасці з гэтым часта вуснае навучанне завуць вусным інструктаваннем, а пісьмовае навучанне—пісьмовым інструктаваннем. Разгледзім кожны від інструктавання паасобку.

В у с н а е  і н с т р у к т а в а н н е, ці навучанне ўменням і навыкам заключаецца ў тым, што *настаўнік вядзе навучанне вусна.* Прыклады вуснага навучання: настаўнік аб'ясняе паслядоўнасць аперацый пры вырабе вугольніка. Ён гаворыць:

„Вазьміце загатоўку, заціснíце яе ў ціскі і апілуйце шырокую грань драчовым і шліфным напілкам. Пасля гэтага апілуйце знадворныя канты

пад прамым вуглом адзін да другога. Пасля таго, як вы гэта зробіце, апілуйце такім-жа парадкам другую шырокую грань і ўнутраныя канты. І, урэшце, зрабіце больш тонкую апілоўку шляхам праверкі на праверачнай пліце. Пасля гэтага зачысціце шкляной паперай". (З вопыту 4 СШ, Менск.)

Як відаць з гэтага прыклада пры вусным інструктаванні настаўнік амаль *усё аб'ясняе вусна*, вучні-ж у гэты час слухаюць. Пасля аб'яснення настаўніка вучні прыступаюць да выканання задання. У час самастойнай іх працы настаўнік дае дадатковыя аб'ясненні асобным дзецям, брыгадам і ўсяму класу.

Пісьмовае інструктаванне заключаецца ў тым, што настаўнік навучае вучняў уладанню інструментамі на цэльных прадметах, аперацыях і прыёмах па напісаных матэрыялах, а не вусна. Для таго каб навучыць дзяцей зрабіць вугольнік, настаўнік загадзя піша на паперы ўвесь ход работы. Вось змест пісанай інструкцыі пры вырабе вугольніка. (З вопыту школ г. Масквы.)

1) Заціснiце загатоўку ў цiскі і апілуйце пад лінейку напілкам шырокую грань, якая абазначана лічбаю № 1; 2) заціснуўшы ў цiскі, спілуйце кант № 2 і кант № 3 пад прамы вугал; 3) пакрыйце шырокую грань крэйдай, вазьміце лінейку і чарцілку і размесце шырыню вугольніка ў 150 *мм*, пасля гэтага кернерам зрабіце разметку; 4) заціснуўшы ў цiскі, апілуйце шырокую грань № 2; 5) апілуйце ўнутраныя канты да накерненай рыскі; 6) зачысціце шкляной паперай.

Для большай яснасці ў выкананні вугольніка настаўнік загадзя дае на тым-жа самым лістку і яго чарцёж.

Для замацавання ўсяго гэтага настаўнік раіць прачытаць па падручніку, калі ён ёсць.

Для пісанай інструкцыі даецца плакат, рысунак або чарцёж.

Навучанне на такарным станку па пісаных інструкцыях праводзіцца таксама. Пры навучанні ўстанаўліваюць разец, настаўнік піша інструкцыю (калі ёсць кніга—раіць па ёй прачытаць):

1) вазьмі разец, устаў у разцатрымацель;
2) адкруці гайку задняй бабкі і прысунь яе да супарта;
3) шляхам падкладак устанаві разец на лініі цэнтраў;
4) ключом моцна заціснi гайку разцатрымацеля. (З вопыту 10 ПСШ Пролетарскага раёна г. Масквы.)

У дадатак да гэтага апісання настаўнікам даюцца чарцяжы прыёму ўстаноўкі разца.

Такім чынам, пры навучанні па пісаных інструкцыях настаўнік апісвае паслядоўна ўменні і навыкі, якім ён хоча навучыць вучня. У працэсе навучання па гэтых інструкцыях, асобныя аперацыі і прыёмы ілюструюцца рысункамі і чарцяжамі. Пісаныя інструкцыі адначасова з'яўляюцца для вучня планам, па якому ён выконвае работу.

Апрача навучання ўменням і навыкам уладаць інструментамі і механізмамі вусным, пісаным спосабам і па падручніках, у практыцы нашых школ ўжываецца яшчэ адзін спосаб—гэта *дэманстраванне, або паказ*. Сутнасць дэманстравання састаіць у тым, што настаўнік *паказвае* вучням як выконваць работы і асобныя прыёмы. Можна прывесці прыклады навучання прыёмам і аперацыям гэтым спосабам. Перад тым як навучаць на такарным станку паказам, ці дэманстрацыяй, настаўнік гаворыць:

„Я зараз буду вам *паказваць*, як трэба стаяць у час навучання на такарным станку і круціць рукаяткамі прадольнага і папярочнага супартаў. Я буду зараз працаваць, а вы глядзіце. Пасля таго, як я прадэманструю, кожны з вас будзе практыкавацца самастойна".

Прыклад навучання аперацыі апілоўкі. Перад дэманстрацыяй настаўнік гаворыць:

„Дзеці, я вам хачу паказаць, як трэба трымаць напілак у час апілоўкі і як стаяць. Звярніце ўвагу, як я трымаю за рукаятку напілак праваю рукою і за канец яго—леваю рукою. Звярніце ўвагу на расстаноўку ног і адлегласць іх ад стала (правілы трымання напільніка і стойкі мы разбіралі раней)". Сказаўшы гэта, настаўнік дэманструе, а вучні глядзяць.

Пасля дэманстравання вучні прымаюцца за работу, а настаўнік, заўважыўшы памылкі асобных вучняў, выпраўляе іх шляхам паказу (індывідуальнае інструктаванне).

Такім чынам, мы ўстанавілі, што ў практыцы ўжываюцца тры асноўныя віды інструктавання: вуснае, пісьмовае і шляхам дэманстрацый. Па форме-ж абслугоўвання вучняў інструктаванне можа быць індывідуальнае, калі настаўнік навучае кожнага вучня паасобку, і калектыўнае, калі настаўнік навучае адразу цэлую групу ці клас.

Ужываць усе віды інструктавання: вуснае, пісьмовае і дэманстраванне. У нашай школе трэба ўжываць усе віды інструктавання разам, не абмяжоўваючыся якім-небудзь адным відам. Трэба ўжываць вуснае аб'ясненне з ілюстрацыямі, рысункамі, схемамі, чарцяжамі; трэба вуснаеізлажэнне суправаджаць паказам настаўніка і, урэшце, адначасова з гэтым даваць і пісаную (ці друкаваную) інструкцыю, заданні на самастойныя лабараторныя заняткі, раіць чытанне падручніка. Кожны з гэтых прыёмаў трэба ўжываць выходзячы са зместу работы і ўзросту дзяцей: так у V класе даваць больш вусныя аб'ясненні з дэманстрацыяй ілюстрацыямі, а ў VII, VIII класах можна павялічыць пісанае (ці друкаванае) інструктаванне таму, што ў гэтым узросце вучні ўжо лепш разумеюць пісанае, ды і самі могуць скласці гэтую інструкцыю.

Інструктаванне калектыўнае і індывідуальнае. Па форме абслугоўвання вучняў трэба ўжываць і індывідуальнае і калектыўнае інструктаванне. Зразумела, перавагу ў навучанні неабходна аддаваць калектыўным формам, адсюль і калектыўнае інструктаванне павінна заняць рашаючае месца. Пры гэтым неабходна ўлічваць здольнасці кожнага вучня паасобку і даваць ім дадатковае падрабязнае інструктаванне. Пры калектыўных формах навучання рашаючае месца павінна заняць соцспаборніцтва груп і вучняў паміж сабой. Трэба імкнуцца, каб абавязкі вучняў былі канкрэтныя, трэба правяраць іх выкананне і вынікі даводзіць да ведама ўсіх вучняў.

Такія прыёмы навучання будуць адпавядаць указанням ЦК ВКП(б) аб ужыванні пры выкладанні рознастайных прыёмаў і метадаў.

Дрэнныя прыклады з практыкі школы. У практыцы нашай школы часта гэтыя патрабаванні метадаў выкладання не выконваюцца. Часта настаўнік пры навучанні ўладанню інструментамі па аперацыях зусім не ўжывае пісьмовае інструктаванне, не дае чытаць па падручніку, мала дае вусных аб'ясненняў; у даным выпадку метады навучання зводзяцца да старых „дзедаўскіх" спосабаў „навучаць паказам" без тэарэтычнага абгрунтавання. Апрача гэтага, часта ў практыцы зусім не ўжываюцца калектыўныя формы навучання, а, наадварот, кожны вучань навучаецца індывідуальна, самастойна, без усякай дапамогі настаўніка. Для таго, каб паказаць, як не трэба інструктаваць, возьмем прыклады работы 25-й ПСШ г. Менску ў 1933 г. Прыёмы навучання ў гэтай школе даследваліся шляхам запісу 40 урокаў у майстэрнях па ручной і машыннай апрацоўцы метала і дрэва. Запісвалася падрабязна ўсё, што рабіў настаўнік і вучні. У выніку высветлілася,

што настаўнік навучаў рабіць вугольнік, малаток і іншыя прадметы толькі шляхам паказу, без падрабязнага аб'яснення і ўжывання пісьмовых форм інструктавання. Замест таго, каб навучаць калектыўна клас, настаўнік увесь час вёў гутарку з паасобнымі вучнямі.

Як інструктаваць пры вырабе цэлага прадмета. Разгледзім, як-жа трэба навучаць уменням і навыкам уладання інструментамі пры вырабе цэлага прадмета (VI клас).

Можна ўстанавіць наступныя агульныя правілы:

1. Навучаць ці інструктаваць трэба вусна, пісьмова, шляхам дэманстрацыі; для больш цвёрдага засваення даваць заданні па падручніку.

2. Трэба ілюстраваць прыёмы і правілы выканання аперацый малюнкамі, рознымі схемамі, чарцяжамі на паперы, на дошцы.

3. Састаўляць разам з вучнямі план работы і перад выкананнем яе аб'ясняць усяму класу вусна парадак работы, паказваць асноўныя правілы.

4. Арганізоўваць работу па прынцыпу соцспаборніцтва груп і вучняў між сабой.

5. Пры навучанні трэба забяспечыць сувязь з асновамі навук. Тут мы разбярэм, як трэба інструктаваць вучняў пры вырабе імі цэлага прадмета (на прыкладзе вугольніка) з тым, каб выканаць усе вышэйпералічаныя правілы.

Прыклад бярэцца з практыкі VI класаў менскіх школ, працаваўшых па методыцы намі прапанаванай.

Перш чым прыступіць да выраба прадмета, настаўнік разам з вучнямі састаўляе план-картку (на вытворчасці гэты план завецца інструкцыйнай карткай), узор якой паказан на стар. 65. Вось урок, дзе састаўляецца план-картка на вугольнік; апісанне робіцца паслядоўна па кожнаму з пунктаў карткі:

I. З дзецьмі праводзіцца гутарка. Настаўнік гаворыць: „Нам трэба навучыцца пілаваць напілкам, трымаць напілак і правільна стаяць. Гэтаму мы будзем вучыцца пры вырабе вугольнікаў".

Далей настаўнік, паказваючы вучням вугольнік і аб'ясняючы яго часткі, задае пытанне:

„Для чаго ўжываюцца вугольнікі" (вучні адказваюць).

Настаўнік прадаўжае: „Такім чынам, вы бачыце, што без вугольніка часта нельга выканаць работу, а іх у нас на ўсю майстэрню толькі два. Таму будзем рабіць вугольнікі для абсталявання нашай майстэрні. Запішам пункт першы па плану-картцы—вугольнік для абсталявання майстэрні". (Гл. план-картку, пункт I, стар. 65).

„Зараз нам трэба зрабіць чарцёж вугольніка з асноўнымі размерамі".

Настаўнік дае аднаму з вучняў абразец вугольніка сантыметровую лінейку і гаворыць, каб ён вымераў даўжыню, таўшчыню і шырыню вугольніка. Пасля таго, як вучань паведамляе аб выніках вопыту, настаўнік гаворыць: „Зараз запішам на дошцы даныя размераў для вугольніка".

Запісвае:

| | |
|---|---|
| Даўжыня большага сектара | 20 *см* |
| Даўжыня меншага сектара | 15 *см* |
| Шырыня | 3 *см* |
| Таўшчыня | 3 *мм* |

„Цяпер начарцім вугольнік".

2. Настаўнік чарціць вугольнік на дошцы з паказаннем размераў. Дзеці гэта-ж робяць у сшытках. Такім чынам, запаўняецца пункт другі план-карткі.

3. Далей настаўнік разам з вучнямі ўстанаўлівае, які патрэбен матэрыял для вырабу вугольніка. Высвятляецца, што вугольнік не павінен рабіцца з мяккага матэрыялу з мэтай захавання яго дакладнасці; устанаўліваецца, што на вугольнік патрэбна жалеза; паказваецца размер загатоўкі з прыпускам на апілоўку. Урэшце, запаўняецца пункт з карткі: матэрыял—жалеза.

4. Пасля састаўлення чарцяжа і падбору матэрыялу настаўнік задае вучням пытанне: „Якія работы ці аперацыі трэба выканаць, каб атрымаўся з загатоўкі гатовы вугольнік?“ (Дзеці адказваюць.)

Абагульваючы адказы вучняў, настаўнік устанаўлівае, што для вырабу вугольніка трэба выканаць наступныя аперацыі: пакрыццё крэйдай, разметка, апілоўка шырокіх граней, апілоўка кантаў, адрэзка канцоў па размерах, праверка на праверачнай пліце і шліфоўка.

Устанавіўшы асноўныя аперацыі, настаўнік разам з дзецьмі распалагае іх ў паслядоўнасці, адпавядаючай вучэбным задачам. Аб'ясняецца, што спачатку трэба ўзяць загатоўку, заціснуць яе ў ціскі і апілаваць шырокую грань (№ 1) драчовым і шліфным напілкам (дэманстрацыя зажыму ў ціскі і паказ вугольніка з гэтай выкананай аперацыяй) потым, заціснуць вугольнік кантам уверх і апілаваць драчовым і шліфным напілкам пад прамым вуглом (дэманстрацыя зажыму ў ціскі і паказ вугольніка з выкананай аперацыяй); заціснуць вугольнік уверх неапілаванай шырокай гранню і апілаваць яе (дэманстрацыя); пакрыць адну з шырокіх апілаваных граней крэйдай і чарцілкай правесці паралельныя лініі ў адносінах да апілаванага знадворнага канта; кернам і малатком пракернаваць па праведзенай лініі (паказ пракернавання загатоўкі); заціснуць у ціскі ўверх унутранымі кантамі і апілаваць іх пад прамым вуглом (дэманстрацыя, як зажымаць і апілоўваць). Шляхам праверкі на праверачнай пліце ўстанавіць дакладнасць апілоўкі шырокіх граней; працерці шкляной паперай.

Для таго, каб вучням наглядна паказаць выраб усяго гэтага прадмета па аперацыях, добра было-б мець дошку з прымацаванай мадэллю вугольніка, дзе паказана паслядоўнасць усіх аперацый: загатоўка, апілоўка шырокіх граней, апілоўка знадворных кантаў, разметка, апілоўка ўнутраных кантаў, аддзелка.

Такім чынам, кожны этап работы трэба дэманстраваць наглядна. Калі гэтага зрабіць нельга, то можна абмежавацца загадзя падрыхтаванымі чарцяжамі, дзе была-б відавочна паслядоўнасць работы (як гэта ў нас зроблена на плане-картцы).

Пасля засваення вучнямі паслядоўнасці работы, трэба разам з імі запісаць гэтую паслядоўнасць з паказаннем патрэбнага часу на кожны этап работы. Урэшце, запаўняецца 4-ты пункт плана-карткі.

5. Устанавіўшы асноўныя аперацыі, настаўнік раз'ясняе вучням, якія яны павінны набыць уменні і навыкі пры вырабе вугольніка. „Пры вырабе гэтага вугольніка вы павінны атрымаць некаторыя ўменні апілоўваць шырокую паверхню (як трымаць напілак і стаяць у часе апілоўкі мы гаварылі раней). Запішам, якія ўменні і навыкі вы павінны набыць. Запісваюцца пункты 5 і 6 плана-карткі.

6. Затым настаўнік разам з вучнямі ўстанаўліваюць моманты сувязі данай работы з асновамі навук. Ён паясняе, што пры вырабе такіх-та частак (пералічвае і паказвае) вугольніка дзеці будуць мець справу з прамым вуглом, катэтамі, паралельнымі лініямі. Сувязь з асновамі навук пасля аб'яснення запісваецца ў пункце 7 плана-карткі.

Пры ўстанаўленні сувязі з асновамі навук ні ў якім выпадку нельга запісваць гэтую сувязь наогул: „Сувязь з матэматыкай, фізікай“. Трэба запісваць асноўны закон, які мае адносіны да вырабу прадмета. Трэба рабіць прыкладна такі запіс, які зроблен у нашай картцы ў пункце 7.

Саставіўшы план-картку, настаўнік выклікае некалькіх вучняў з тым, каб паўтарыць усе пункты згодна запісу. Гэтым самым ён замацоўвае веды аб выкананні работы і аднначасова правярае, як вучні засвоілі план (на састаўленне плана-карткі з запісам выдзяляецца адна вучэбная гадзіна).

Пасля састаўлення плана-карткі ў другую гадзіну раздаюцца загатоўкі і інструмент (калі ён не знаходзіцца на вучэбных месцах); прапануецца прымацаваць планы-карткі на дошчачкі, і вучні прыступаюць да выканання задання па плану.

Навучанне выконваць аперацыі цэлага прадмета. Перад кожнай аперацыяй настаўнік аб'ясняе, дэманструе, як трэба яе выконваць. (Настаўнік павінен улічыць, калі і якія аперацыі выконваюць вучні.) Напрыклад, перш чым прапанаваць вучням зрабіць разметку, настаўнік сам перад усімі вучнямі дэманструе гэтую аперацыю, даючы адпаведныя аб'ясненні, выклікае вучня для паўтарэння аперацыі, пасля чаго ўвесь клас прыступае да разметкі. У час выканання яе вучнямі настаўнік ходзіць па класу і дае індывідуальнае інструктаванне—вуснае і шляхам паказу.

Перад апілоўкай першай шырокай грані, настаўнік заціскае загатоўку і паказвае як апілоўваць; усе вучні глядзяць; пасля дэманстрацыі яны прыступаюць да работы. У гэты час настаўнік ходзіць, аб'ясняе і паказвае, як рабіць кожнаму вучню паасобку, сочыць за тым, каб вучні карысталіся пісьмовай карткай. Калі настаўнік заўважае, што шмат вучняў робяць памылку, ён спыняе работу ўсіх і аб'ясняе, пасля чаго дзеці зноў прыступаюць да выканання задання. Так, па этапах выконваецца ўся работа.

Калі рэч вельмі вялікая, дапусціма, каб настаўнік загадзя падрыхтаваў адну план-картку ў павялічаным маштабе і пасля прапрацоўкі яе з вучнямі вывесіў для агульнага карыстання. Гэтым самым будзе зэканомлен час на запіс карткі кожным вучнем.

Пісаць план-картку трэба зразумела і коротка. Пры састаўленні карткі трэба імкнуцца пісаць яе зусім лёгкай мовай, не ўжываць незнаёмых для дзяцей тэхнічных слоў. Сказы павінны быць кароткімі і зразумелымі. Картку трэба састаўляць так, каб увесь змест яе разам з чарцяжом змясціўся на старонцы аднаго ліста паперы.

Чарцёж прадмета на плане картцы па свайму зместу павінен быць розным у залежнасці ад класа: у V класе трэба даваць у асноўным рысунак у перспектыве, у VII класе можна дапускаць чарцёж і эскіз.

У V і VI класах усе планы карткі павінны састаўляцца настаўнікам разам з вучнямі, а пачынаючы з VII і VIII класаў можна практыкаваць самастойнае састаўленне планаў картак (з адпаведнай праверкай іх настаўнікам). Пры гэтым пасля праверкі планаў ва ўсіх вучняў, выбіраюцца найбольш адпавядаючыя навучанню, выпраўляюцца настаўнікам і даюцца ўсім вучням для выканання задання.

Навучанне пры калектыўным вырабе прадмета (па аперацыях). Цэлы прадмет можа выконвацца з пачатку да канца асобнымі вучнямі або рабіцца групай пры ўмове размеркавання працы: увесь клас дзеліцца на групы, якім даручаецца выканаць асобныя аперацыі. Напрыклад, ізгатаўленне вугольнікаў можа адбывацца з размеркаваннем працы, для чаго ўвесь працэс падзяляецца на такія аперацыі:

1) апілоўка шырокіх граней,
2) разметка,
3) апілоўка вузкіх граней,
4) паверка,
5) аддзелка.

Адпаведна гэтым аперацыям клас дзеліцца на 5 груп, кожнай з якіх даецца выкананне асобнай аперацыі.

Пры навучанні з размеркаваннем працы трэба з усімі вучнямі саставіць план-картку на цэлы прадмет з тым, каб кожны з іх разумеў месца асобнай аперацыі ў канструкцыі ўсяго прадмета.

Пры навучанні з размеркаваннем працы патрэбна арганізаваць соцыялістычнае спаборніцтва паміж групамі і асобнымі вучнямі. Неабходна ўстанавіць ясныя абавязкі па ўмовах з тым, каб іх абавязкова выконваць. Умовы неабходна правяраць у канцы выканання асобных прадметаў, у канцы цэлых кварталаў. Вынікі праверкі абавязкова даводзіць да ведама ўсіх вучняў.

---

## ПЛАН-КАРТКА

### па палітэхнічнаму працоўнаму навучанню

1. Школа № 13. Клас VII. Прозвішча—*Батвінік*.

(Месяц) *Красавік 15—1934 г.*

2. Назва і грамадска-карыснае прызначэнне рэчы: *вугольнік для школьнай майстэрні.*







3. Выгляд і размер матэрыялу: жалеза . . . . . . . . . . . . . .

4. Паслядоўнасць вырабу прадмета . . . . . . . . . . . . . . . . .

| №№ п/ч | Аперацы | Патрэбны час (прыкладна*) |
| --- | --- | --- |
| 1 | Заціснуўшы ў цвікі загатоўку драчовым і шліфным напілкам апілаваць шырокую грань № 1 . . . . . . . . . . . . . | 15 мін. |
| 2 | Апілаваць драчовым і шліфным напілкам другую шырокую грань № 1 . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 25 „ |
| 3 | Драчовым і шліфным напілкам апілаваць канты *АВ* і *БВ* пад прамым вуглом . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 15 „ |
| 4 | Пакрыўшы крэйдай адну з апілаваных шырокіх граней, лінейкай і чарцілкай устанавіць шырыню. Затым кернам пракернаваць па лініі *ГД* і *ДЕ* . . . . . . . . . . . . . . . . | 15 „ |
| 5 | Драчовым і шліфным напілкам апілаваць унутраныя канты па лініі *ГД* і *ДЕ* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 25 „ |
| 6 | Праверыць на праверачнай пліце і адшліфаваць . . . . . . | 15 „ |

5. Уменні і навыкі, якія неабходна набыць:
   а) навучыцца апілоўваць шырокія плоскасці . . . . . . . . . .
   б) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

6. Веды, якія неабходна набыць:
   а) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   б) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

7. Сувязь з асновамі навук: прамы вугал, тэарэмы паралельных ліній прамавугольнік.

* Час, вызначаны пры ўмове наяўнасці дакладна зробленай накоўкі для вугольніка.

*С. Радвін*

# Заўвагі аб правілах унутранага распарадку ў пачатковай школе

Першыя два месяцы работы ў школе маюць асабліва важнае значэнне для ўстанаўлення парадку і дысцыпліны. У гэты час трэба звярнуць асабліва вялікую ўвагу на выхаваўчую работу з вучнямі па ўкараненню свядомай дысцыпліны.

Асноўным фактарам выхавання ў вучняў навыкаў парадку і культурнасці з'яўляецца настаўнік. Настаўнік павінен цвёрда ведаць, што гэтую справу ён не можа перадаручаць органам ДСК або іншым арганізацыям. Гэта яго непасрэдная работа, якую ён праводзіць у працэсе навучання.

Трэба падкрэсліць, што значна цяжэй прывучыць вучня старэйшых класаў сярэдняй школы да навыкаў, дысцыпліны, санітарыі і культуры, калі гэтыя навыкі не былі дадзены дзецям своечасова ў малодшых класах. Школа павінна мець цвёрды рэжым, адчуваемы вучнямі з першых дзён іх вучобы. Прыняты распарадак павінен няўхільна праводзіцца ў жыццё. Цвёрдае, сістэматычнае і паслядоўнае назіранне настаўнікамі і загадчыкам школы за ажыццяўленнем школьнага парадку з'яўляецца парукай атрымання належнага выхаваўчага эфекту сярод вучняў.

Разгледзім мерапрыемствы, якія настаўнікі павінны правесці ў напрамку барацьбы за здаровы рэжым і парадак у школе.

Загадчык і настаўнікі павінны звярнуць вялікую ўвагу на культурны выгляд школы. Брудныя класы і запыленыя парты не распалагаюць вучняў да захавання чыстаты. Абпісаныя сцены штурхаюць вучняў да далейшай пісаніны на іх. Раскіданыя ў беспарадку кніжкі і сшыткі ў настаўніцкай шафе нагадваюць вучням такі-ж беспарадак у сваіх кніжках і сшытках.

Для першакласнікаў, якія ўпершыню прыходзяць у школу, прыгожы знадворны выгляд яе служыць важнейшым стымулам у выпрацоўцы свядомых адносін да распарадку. Класавыя памяшканні павінны заўсёды быць акуратнымі і чыстымі. Парты павінны стаяць у строгім парадку. Вучні не павінны, як мы гэта часта назіраем, займацца раніцой перасоўваннем і расстаноўкай парт, дошкі і стала. Яшчэ да прыходу ў школу вучняў усё гэта павінна быць на сваім месцы. Розныя „упрыгожванні" з папяровых ланцужкоў, выразкаў, вянкоў і т. д. толькі з'яўляюцца месцамі збірання пылу і не павінны вісець у класах. У настаўніцкай шафе ўсё павінна быць разложана ў пэўным парадку: кніжкі, сшыткі, крэйда, чарніла, алоўкі, ручкі—кожная рэч мае сваё месца. У кутку класа трэба паставіць скрынку для смецця і плявалку, запоўненую чыстым пяском або вадой.

Вось першая ўмова, якая дазваляе патрабаваць ад вучняў выканання правіл унутранага распарадку ў школе. Пры гэтай умове вучні адразу-ж адчуваюць пашану да школы як да культурнай установы. Вучань адразу адчувае, што памяшканне школы гэта месца, дзе ён не можа сабе дазволіць тых або іншых некультурных учынкаў.

Загадчык школы павінен сістэматычна даваць ацэнку работы кожнага настаўніка і тэхнічнага працаўніка па ўтрыманню чыстаты і парадка ў школе. Мы часта назіраем, што загадчык лічыць непатрэбным займацца такімі „дробязямі“ як трыманне ў належным стане настаўніцкай шафы: „гэта справа настаўніка, не мая“. Шмат такіх „дробязей“ запаўняюць работу ў школе і часта рашаюць справу прывучэння вучняў да культурнасці і чыстаты.

Часта мы маем яшчэ выпадкі неахайнасці і некультурнасці сярод саміх настаўнікаў і тэхнічных работнікаў школы. Быць чыста адзетым, не пляваць на падлогу, трымаць у добрым выглядзе кніжкі і сшыткі (не пераламваць і не згібаць падручніка, не вырываць аркушаў з сшыткаў) і т. д.—гэта элементарнейшыя патрабаванні да самаго настаўніка, якія ён павінен выконваць як у прысутнасці дзяцей, так і па-за школай.

Наступнае патрабаванне да школы ў сэнсе ўстанаўлення цвёрдага рэжыма і парадку—гэта пунктуальны пачатак заняткаў дакладна ва ўстаноўлены час. Трэба пакончыць з практыкай некаторых школ, дзе заняткі распачынаюць, калі вучні збяруцца („вучні-ж маленькія, а надвор'е дрэннае, можна крыху пачакаць, пакуль збяруцца“). Кожны ўрок пасля перамены павінен пачынацца таксама ва ўстаноўлены час.

Пры наяўнасці гэтых умоў настаўнік можа з поспехам праводзіць сваю выхаваўчую работу па рэжыму. Ён фармулюе абавязкі вучняў у наступных пунктах:

1. Не спазняцца ў школу.
2. Прыходзіць у школу заўсёды чыстымі.
3. У класе сядзець ціха і слухаць уважліва настаўніка.
4. Пры ўваходзе настаўніка ў клас уставаць з месца.
5. На перапынках з таварышамі не біцца, не шумець і не рабіць беспарадку.

Ці патрэбна гэтыя патрабаванні фармуляваць у пісьмовы спецыяльны дакумент для вучняў I і II класаў? Для вучняў данага ўзросту гэта не з'яўляецца неабходным. Настаўнік у вуснай гутарцы знаёміць дзяцей з рэжымам школы, тлумачыць як трэба выконваць кожны пункт яго.

У першыя-ж дні настаўнік склікае сход бацькоў свайго класа і тлумачыць ім аб патрабаваннях школы, абавязковага наведвання яе дзецьмі, ліквідацыі спазненняў і пасылкі дзяцей чыстымі, пастрыжанымі.

Трэба падкрэсліць, што малодшыя вучні вельмі хутка прывучаюцца да парадку пры ўмове, калі настаўнік будзе безупынна і сістэматычна сачыць за імі ад пачатку да канца школьнага дня. Часта настаўнік уводзіць усе правілы і бярэцца за даную работу ўпарта, але пасля некалькіх дзён аказваецца непаслядоўным, перастае сістэматычна сачыць за выкананнем прынятага парадку ў школе. Гэтым самым патрэбныя навыкі працдысцыпліны не паспяваюць замацоўвацца ў вучняў: тое, што дзеці набылі на працягу першых дзён, яны хутка забываюць. Праведзеная работа настаўніка прападае без належных вынікаў.

У часе перапынку не трэба займацца залішняй апекай над вучнямі. Трэба памятаць, што перапынак з'яўляецца адпачынкам для вучняў і таму недапусціма прымусовае ўцягненне дзяцей у карагодныя ігры (між іншым, яны часта носяць нудны характар і не цікавяць дзяцей). Час перапынку павінен быць пакінуты ў распараджэнне вучняў; настаў-

нік дапамагае тым або іншым групкам вучняў у арганізацыі ігры, рухаў або забавы *.

Настаўнік павінен арганізаваць уход вучняў дахаты. Зараз-жа пасля заняткаў вучні пад наглядам настаўніка прыводзяць у парадак свае кніжкі і пісьмовыя прылады. Настаўнік накіроўваецца з усім класам да вешалкі і сочыць там за парадкам. Нават, калі дзеці выходзяць з памяшкання школы,—карысна, каб настаўнік наглядаў за дзецьмі, пакуль яны не разойдуцца ў розныя бакі.

З вучнямі III і IV класаў работа па ўкараненню правіл унутранага распарадку праводзіцца інакш. Для іх правілы ўнутранага распарадку трэба фармуляваць у пісьмовым дакуменце, дзе пералічаны галоўнейшыя абавязкі вучня.

Памятка можа мець прыблізна наступны характар:

### Раздзел I: ШКОЛЬНЫ РАСПАРАДАК

1. Заняткі ў школе праводзяцца наступным парадкам:

Пачатак урокаў—у 9 гадз. раніцой.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1-ы | урок прадаўжаецца | ад 9 | да $9^{50}$ |
| 2-гі | „ „ | ад 10 | „ $10^{50}$ |
| 3-ці | „ „ | ад 11 | „ $11^{50}$ |
| 4-ты | „ „ | ад $12^{20}$ | „ $13^{10}$ |
| 5-ты | „ „ | ад $13^{20}$ | „ $14^{10}$ ** |

2. Зараз-жа пасля званка вучань павінен сядзець на сваім месцы, маючы ўсе прылады, неабходныя для данага ўрока.

3. Верхняе адзенне, галаўны ўбор і галошы вучань павінен астаўляць на вешалцы ў вызначаным для яго месцы.

4. Кожны вучань мае замацаванае за ім месца ў класе, за чыстату якога ён адказвае.

5. Пры ўваходзе настаўніка ў клас вучні павінны ўставаць.

6. У часе ўроку вучань павінен уважліва слухаць тлумачэнні настаўніка і адказы вучняў і выконваць працу выключна па заданню настаўніка. Пабочнымі справамі займацца на ўроку забараняецца.

7. У час перапынку класы праветрываюцца вызначанымі дзяжурнымі. У гэты час забараняецца аставацца ў класе.

8. На перапынках забараняецца шумець, рабіць беспарадак.

### Раздзел II: КУЛЬТУРНА-САНІТАРНЫЯ АБАВЯЗКІ ВУЧНЯЎ

9. Вучань павінен прыходзіць у школу памытым, пастрыжаным, з чыстымі абуткам і вопраткай.

10. Школьны будынак захоўваецца ў абсалютнай чыстаце. Пляваць на падлогу, кідаць паперу, брудніць сцены катэгарычна забараняецца.

11. Кніжкі, сшыткі і навучальныя прылады вучань павінен трымаць у абсалютнай чыстаце.

12. У адносінах да настаўніка і іншых працаўнікоў школы вучань павінен трымацца вежліва і з пашанай.

### Раздзел III: АДНОСІНЫ ДА ШКОЛЬНАЙ МАЁМАСЦІ

13. Школьная маёмасць—гэта маёмасць соцыялістычная. Вучань савецкай школы павінен беражліва адносіцца да яе: школьная мэбля, падручнікі, геаграфічныя карты і інш. навучальныя прылады трэба захоўваць у цэласці.

---

* Наогул дзеці малодшых класаў не павінны на перапынках займацца разумовай працай. Выпускі насценгазеты альбо жывой газеты, выступленні важатага атрадам перад вучнямі, нават арганізацыя разумовых забаў (загадкі, віктарыны) не павінны мець месца ў часе перапынкаў. Дзеці праводзяць гэты час у рухах. Аднак, рухі не павінны быць хуткімі і цяжкімі—яны стамляюць дзяцей.

** Зразумела, што паказаны час можа быць іншым. Школа можа распачаць заняткі, напрыклад, а $8^{30}$ гадз. Тады будуць зменены пачатак і канец усіх урокаў.

Такая памятка вывешваецца ў школе і ў хаце вучняў, а на спецыяльных занятках у класе настаўнік яе тлумачыць. Такім чынам, вучань і бацькі яго заўсёды памятаюць аб сваіх абавязках перад школай.

Для выканання рэжыма настаўніку трэба прыходзіць у школу за 15—20 мін. да пачатку заняткаў і сачыць, каб вучні выціралі ногі пры ўваходзе ў памяшканне, раздзяваліся перад уваходам у клас, не хадзілі ў карыдоры ў галошах і т. д. і правяраць класнае памяшканне. Дзяжурны вучань прыходзіць за 10 мін. да званка: ён прыводзіць у парадак чарнільніцы ў класе, дошку, а таксама сочыць за парадкам. У часе перапынку дзяжурныя вучні дапамагаюць настаўніку сачыць за парадкам у класах і карыдоры школы.

Кожнае парушэнне дысцыпліны тым або іншым вучнем павінна быць выкрыта і ацэнена настаўнікам. Апрача заўвагі на месцы, настаўнік час ад часу—не менш разу ў месяц—дае ацэнку паводзінам вучняў класа. Настаўнік прыводзіць прыклады лепшых вучняў, таксама гаворыць аб тых вучнях, якія зрабілі тыя або іншыя ўчынкі.

Некаторых вучняў, якія выдзяляюцца частымі парушэннямі дысцыпліны, настаўнік бярэ пад асаблівы нагляд: праводзіць гутаркі, выклікае часцей у час заняткаў, з мэтай праверыць іх падрыхтоўку да ўрокаў, вядзе адпаведную гутарку з бацькамі, каб забяспечыць правільны выхаваўчы падыход да вучня ў сям'і.

Настаўнік абавязан прывучаць вучняў да ветлівасці ў адносінах да старэйшых людзей. Вучні не павінны, як гэта часамі бывае на практыцы, цягаць настаўніка за полы або рукавы, не павінны падслухоўваць, перабіваць або ўмешвацца ў разгавор настаўнікаў між сабой або з іншымі грамадзянамі. Гэтыя формы пашаны з'яўляюцца важнымі і трэба пакончыць з недаацэнкай такіх „дробязей" школьнага рэжыму.

Загадчыку школы пры наведванні класа трэба звяртаць увагу не толькі на змест і метады работы, але і на паводзіны вучняў. Па меры неабходнасці загадчык выклікае да сябе (па дагаворанасці з настаўнікам) тых або іншых вучняў. Пры гэтым загадчык не павінен падмяняць настаўніка. У першую чаргу павінен гаварыць з вучнямі настаўнік класа. Загадчык з'яўляецца як-бы апошняй інстанцыяй у вырашэнні ўчыненых фактаў.

У выхаваўчай рабоце па нагляду за вучнямі загадчык і настаўнік павінны выяўляць чоткую паслядоўнасць. Раз яны гаварылі з вучнем аб якім-небудзь учынку, і вучань, напрыклад, даў слова выправіцца ў паводзінах, то загадчык і настаўнік абавязкова павінны не забыць гэтага і часта правяраць. Вучні павінны быць пераконаны, што нішто не аказваецца незаўважаным іх кіраўнікамі.

Пытанне аб дысцыпліне трэба паставіць на першым бацькоўскім сходзе. Асаблівую ўвагу настаўнік звяртае на хатні рэжым вучня (яго работа ў хаце, умовы і працяглацсь сну і т. д.). У школе бацькі павінны падпарадкоўвацца ўсім правілам культурнай установы: не пляваць, не курыць у класах і карыдорах, не гаварыць абразлівых слоў.

Такім чынам, у рабоце з бацькамі трэба практыкаваць:

1) Вызавы на паседжанні камсода тых бацькоў, якія не рэагуюць на праступкі сваіх дзяцей у школе. Але пры гэтым трэба помніць, што часты выклік бацькі ў школу звязан з пабоямі вучня, чаго ні ў якім разе нельга дапусціць.

2) Наведванні час ад часу брыгадай перадавых бацькоў сямей тых вучняў, якія робяць парушэнні парадку ў школе.

3) Выкарыстанне насценгазеты прадпрыемства, дзе працуюць бацькі.

Работа школы з бацькамі па ўкараненню свядомай дысцыпліны не абмяжоўваецца паказанымі тут мерапрыемствамі. У залежнасці ад канкрэтных умоў яны могуць быць значна пашыраны.

*М. Міхневіч*

*Выкл. геаграфіі менскай базавай сярэдняй школы імя Чарвякова пры НКА*

Кожны выкладчык геаграфіі толькі цяпер, пасля пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР з'яўляецца выкладчыкам сапраўднай геаграфіі. Не буду спыняцца на тых умовах, у якіх была геаграфія да гэтага часу. Яны добра вядомы ўсім. Цяпер выкладчыкі геаграфіі павінны стаць сапраўднымі географамі. Гэта задача нялёгкая. Мы амаль зусім не маем высокакваліфікаваных выкладчыкаў у гэтай вобласці. Такое становішча патрабуе ад кожнага выкладчыка геаграфіі напружанай работы над самім сабою. Вучачы, неабходна ўпарта вучыцца самому, каб як мага хутчэй запоўніць тыя прабелы, якіх многа, асабліва ў частцы фізіка-геаграфічных ведаў. Нельга добра навучыць таму, чаго сам выкладчык добра не ведае.

Другім не менш важным пытаннем з'яўляецца методыка выкладання. Неметадычна пабудаваны ўрок ніколі не дасць добрага эфекта і добрых вынікаў. Тут павінна дапамагчы арганізацыя адкрытых і ўзорных лекцый мацнейшых настаўнікаў. НКА неабходна тэрмінова заняцца складаннем методыкі выкладання геаграфіі, улічваючы новыя патрабаванні і выкарыстоўваючы лепшы вопыт. Трэба планы лепшых метадычна-пабудаваных адкрытых і ўзорных лекцый дасылаць у раённыя школы, а таксама выкарыстоўваць іх пры складанні методыкі геаграфіі.

Сярод шэрагу вельмі важных пытанняў выкладання геаграфіі цэнтральнае месца займае пытанне аўладання картай. Без карты няма геаграфіі—гэта павінен запомніць кожны выкладчык геаграфіі.

Трэба каб фізіка-геаграфічная карта ў мысленным уяўленні вучня магла свабодна прадставіцца ў колерах палітычных карт, а пад фарбы палітычнай карты маглі-б таксама свабодна падводзіцца фарбы фізіка-геаграфічнага фону. Трэба каб контурная карта перад вачыма вучня ажыўлялася правільна размешчанымі фарбамі фізіка-геаграфічнага і палітычнага зместу.

Прывяду некалькі думак адносна таго, як дабіцца аўладання картай вучнямі.

Перш за ўсё трэба ў школе ліквідаваць картаграфічны голад. Паколькі рынак яшчэ не можа поўнасцю задаволіць запатрабаванняў школы ў картах, мы павінны мабілізаваць свае ўласныя сілы, сілы школы. Трэба каб самі вучні малявалі карты ў школе пры дапамозе настаўніка. У школе заўсёды ёсць вучні—лепшыя мастакі, любіцелі, гурткоўцы ІЗО, трэба выкарыстоўваць іх. Трэба прыцягнуць і выкладчыка малявання на дапамогу арганізацыі гэтай справы. Кожны вучань павінен ведаць прыёмы малявання контурных карт.

Папаўненне геаграфічнага габінета ў сучасны момант з'яўляецца найбольш актуальным пытаннем.

Даўшы вучню карту трэба навучыць яго свядома працаваць над ёй. Звычайна вучань бачыць карту толькі на лекцыі геаграфіі. Падрыхтаваць па карце дадзены на дом матэрыял па геаграфіі ён часцей за ўсё не можа, бо школьная карта стаіць пад замком. Часта атрымаўшы карту, вучань не знаходзіць месца, дзе можна заняцца ёй. А між тым амаль у кожнай школе ёсць бібліятэкі, пакоі чытання, піонерскі пакой, зала для перапынкаў, сцены якіх увешаны рознымі рэчамі, але геаграфічных карт сярод іх няма. Трэба наблізіць карту да вучня. Трэба каб ён меў магчымасць карыстацца ёй не толькі ў школе, а і ў пазалекцыйны час. Адміністрацыя школы і настаўнік па геаграфіі павінны даць магчымасць вучню рыхтавацца да ўрока геаграфіі па карце. А калі вучань вольна зможа карыстацца картай, тады ён зацікавіцца знайсці на ёй і назву, якую сустрэў у газеце, і назву, якую сустрэў у кнізе для пазакласнага чытання. Асабліва вялікую дапамогу ў гэтым напрамку можа аказаць бібліятэка. У бібліятэцы трэба адвесці куток геаграфіі, дзе былі-б неабходныя карты, атласы, часопісы і альбомы, а таксама літаратура, на якую заўсёды мог-бы спасылацца настаўнік у сваіх лекцыях. У нашых газетах, асабліва цэнтральных, ёсць многа геаграфічнага матэрыялу. Нажаль ён рэдка даходзіць да вучняў, бо часта гэтых газет няма, або вялікі фармат і сур'ёзны матэрыял запалохваюць вучня, вучань не заглядвае ў іх. Таму вельмі карысна, каб у кутку геаграфіі пры бібліятэцы было некалькі папак з выразкамі з газет. Я ўпэўнена, што і цяпер з вялікай цікавасцю прачыталі-б вучні, асабліва сярэдніх класаў, аб паходзе „Чэлюскіна" і разглядзелі-б тыя карты, якія друкаваліся ў газетах. Дзеці пры чытанні не ўсё адразу могуць улавіць, таму, прачытваючы другі раз, вучань знаходзіць новае і цікавае. Мне вельмі хацелася-б даць нашым вучням фізіка-геаграфічны і палітыка-эканамічны даведнік, разлічаны на малодшыя і старэйшыя школьныя ўзросты. Лічу вельмі пажаданым, каб наш НКА і вышэйшыя педагагічныя ўстановы заняліся пытаннем складання такіх даведнікаў, што, безумоўна, паглыбіць веды нашых школьнікаў у вобласці геаграфіі.

Нельга абмяжоўвацца механічным запамінаннем і паказваннем той або іншай назвы па карце, не ўвязаўшы яе з суседнімі прадметамі і назвамі. Працу над картай не трэба абмяжоўваць толькі распрацоўваемым матэрыялам на ўроках геаграфіі, яе трэба ўвязваць і з чытаннем газет і з чытаннем пазакласнай літаратуры. Лічу карысным даваць вучням матэматычныя задачы на прапрацаваны геаграфічны матэрыял.

Для выпрацоўкі ў вучняў навыкаў работы над картай трэба часцей практыкаваць работы з картай як на лекцыях, так і ў пазакласны час. Вялікую ролю па замацаванню ведаў карты адыгрывае праца над контурнымі картамі. Контурныя карты не павінны быць з вялікім лікам абазначэнняў, каб гэтым самым не губіць сваёй яснасці і рэльефнасці. Калі-ж тэма патрабуе многа абазначэнняў, лепш выкарыстаць некалькі контурных карт, размеркаваўшы па іх матэрыял так, каб карта заставалася выразнай і астаўляла ў вучня пэўнае зрокавае ўражанне. У гуртковай працы, пры наяўнасці адпаведнай літаратуры і малюнкаў, варта арганізаваць падарожжы з мэтай фізіка-геаграфічнага або эканамічнага агляду данай мясцовасці. Арганізацыю падарожжаў трэба праводзіць так, каб яны былі шчыльна ўвязаны з працай над картаю і зацікаўлівалі вучняў. Справа гэта вельмі нялёгкая і патрабуе вялікай папярэдняй падрыхтоўкі.

Паказаць яшчэ на адзін вельмі важны момант у выкладанні геаграфіі—гэта на вобразнасць мовы самога настаўніка. Настаўнік геаграфіі

павінен абагачаць сваю мову, дабівацца дакладнасці і вобразнасці яе ў выкладанні. Гэта выклікае ў вучняў зацікаўленасць і імкненне да чытання пазакласнай літаратуры, а таксама любоў да геаграфіі.

*Н. Стрэйкіс*

*Наст. II кл. менскай базавай сярэдняй школы імя Чарвякова пры НКА*

Гэты вучэбны год пачаўся ў лепшых умовах, чым мінулы. Школа яго сустрэла больш узброенымі вучэбнымі прыладамі, падручнікамі і дапаможнікамі. На першай-жа нарадзе дырэктарам школы была ўскладзена на настаўнікаў малодшых класаў персанальная адказнасць за падрыхтоўку класа і дадзена магчымасць набыць усё неабходнае для класа. Ёсць неабходныя падручнікі з разлікам на кожнага вучня, нават сшыткі для рысавання і каляровыя алоўкі, што дало магчымасць арганізавана пачаць працу з першага-ж дня. Далей я пазнаёмілася са зменамі праграмы, склала гадавы план, строга разлічыўшы матэрыял на гадзіны работы, прагледзела новыя падручнікі. Імкнулася падабраць дапаможнікі па развіццю вуснай мовы, але наша ДВБ аб такіх дапаможніках не паклапацілася і нічога не падрыхтавала. Асноўнай маёй задачай стала добраякасная падрыхтоўка да ўрока, чотка спланіраваны і добра абсталяваны ўрок. Многа часу я аддаю на падрыхтоўку урока. Пры складанні плана перш за ўсё стараюся ясна паставіць перад сабой мэту ўрока. Мэта—стрыжань, вакол якога ўкладаецца змест урока. Многа ўвагі аддаю падбору дыдактычнага матэрыялу, які дапамагае засваенню, ад якога часта залежыць ступень засвоенасці. З першыхжа дзён я павяла барацьбу за культурны сшытак. З памылкамі зроблены подпіс сшытка, памаркі, закрэсленыя словы, выціранне літар гумкай або пальцам прыводзіць сшытак у дрэнны выгляд. Аб гэтым я правяла адпаведную гутарку з класам. Цяпер вучні зрабілі аднолькавы подпіс на сшытку, адлінавалі палі, сталі сачыць, каб не рабіць таго, што прыводзіць сшыткі ў нягодны выгляд, і сшыткі сталі мець здавальняючы выгляд. Я стараюся не праводзіць з вучнямі механічнага спісвання, бо гэта дрэнна адбіваецца як на чыстаце, так і на граматнасці пісьма. Як прыклад даю план урока праведзенага мной па мове 4/X 1934 г.

Тэма ўрока: Сказ—асобная закончаная думка, выказаная словамі.

Мэта: Замацаванне вываду па пытанню—што называецца сказам.

Ход урока.

Настаўнік—Валя, скажы—што называецца сказам?

Адказ—Асобная закончаная думка, выказаная словамі. (Некалькі вучняў паўтараюць.)

Настаўнік—Цяпер вазьміце граматыкі і адвярніце на стар. 5 Задача № 7 „Хто чым робіць“. Чытай, Юра, першы радок да кропкі. (Юра чытае: „Каваль... малатком“.)

Настаўнік—Ці будзе з'яўляцца сказам прачытанае Юрай?

Адказ—Гэта не з'яўляецца сказам.

Настаўнік—Чаму прачытанае Юрай не з'яўляецца сказам?

Адказ—Таму, што тут няма закончанай думкі.

Настаўнік—Якое слова трэба дадаць, каб думка была закончанай?

Адказ—Трэба дадаць слова „куе“.

Настаўнік—Прачытай цяпер, Соня, напісанае ў першым радку і замест кропак дадай слова „куе". (Соня чытае: „Каваль куе малатком".)

Настаўнік—Разбіраем далей задачу. Чытай, Толя, наступныя словы. (Толя чытае: Сталяр... пілой.)

Настаўнік—Прачытанае Толей будзе сказам ці не?

Адказ—Прачытанае Толей не будзе сказам, бо не з'яўляецца закончанай думкай.

Настаўнік—Якое слова трэба ўставіць замест кропак?

Адказ—Трэба ўставіць „пілуе".

Настаўнік—Прачытай, Геня, і замест кропак устаў слова „пілуе". (Геня чытае: „Сталяр пілуе пілой".) (Такім спосабам праводзіцца разбор і астатняга матэрыялу: Кравец... іголкай. Дрывасек... тапаром. Гароднік... рыдлёўкай. Дворнік... мяцёлкай.)

Настаўнік—Цяпер скажыце, ці могуць словы, не выказваючыя думку, называцца сказам?

Адказ—Словы, не выказваючыя думку, нельга назваць сказам.

Яшчэ раз паўтараем вывад, што называецца сказам, потым вучні прыступаюць да перапісвання задачы № 7 у сшыткі. Каб не было механічнага спісвання, перад пісаннем зноў зачытваецца першы сказ адным вучнем, пасля чаго перапісваецца ў сшыткі ўсім класам. Новы сказ не зачытваецца і не пішацца раней, чым усе вучні не запісалі першы сказ. Такім чынам праводзіцца спісванне ўсяго практыкавання. Пасля таго, як закончана спісванне практыкавання, вучні правяраюць напісанае.

Урок, праведзены па гэтаму плану, пазбаўляе ад механічнага спісвання і надае пэўную мэту рабоце. Кожную пісьмовую працу я выпраўляю і стаўлю адзнакі, што стымулюе лепшае якаснае выкананне пісьмовай работы. Вось такім чынам я з першых-жа дзён павяла барацьбу за знішчэнне „карэннага недахопу".

Ад рэдакцыі. Недахопамі гэтага плана з'яўляецца: 1) адсутнасць вызначэння часу на кожны этап работы і 2) адсутнасць вызначэнна хатняй работы. У бліжэйшым нумары рэдакцыя дасць артыкул аб планаванні ўрокаў.

*М. Ляўкевіч*

*Выкл. матэматыкі менскай базавай сярэдняй школы імя Чарвякова пры НКА*

Асноўным недахопам выкладання матэматыкі ў школах г. Менска наогул, і ў Менскай базавай школе ў прыватнасці, з'яўляецца поўнае няўменне рашаць складаныя задачы вучнямі IV, а таксама і вучнямі астатніх класаў школы.

Гэты недахоп грунтуецца на тым, што ў малодшых класах у папярэднія гады на ўроках матэматыкі настаўнікі абмяжоўваліся рашэннем лёгкіх прыкладаў. З рашэннем задач вучні недастаткова знаёмы.

Такое становішча выкладання матэматыкі прывяло да таго, што вучні часам не ўладаюць матэматычнай думкай і матэматычнай мовай, не здольны рашыць простай жыццёвай задачы.

Сур'ёзнасць і адказнасць гэтага пытання была высунута і абгаварвалася на настаўніцкіх канферэнцыях г. Менска і Менскага раёна.

Базуючыся на пастановах канферэнцый, я рашыў з пачатку навучальнага года ў выкладанні матэматыкі па IV класам зрабіць наступныя

мерапрыемствы: 1) з пачатку навучальнага года дэталёва праглядзець праграму па матэматыцы і скласці гадавы план работы; 2) ніводнага арыфметычнага правіла не прападнасіць вучням без задач; 3) рабіць правільны пераход ад лёгкіх да больш складаных задач, 4) пазнаёміць і навучыць рашаць тыповыя задачы; 5) ад вучняў патрабаваць чоткага запісу ў сшытках і на класнай дошцы; 6) раз у месяц даваць не менш адной кантрольнай работы з мэтай праверкі засваення вучнямі рашэння задач; 7) навучыць вучняў праводзіць аналіз задач, што дае магчымасць разбіваць складаныя задачы на простыя і прывучае матэматычна мысліць.

## І. Манцывода

*Наст. менскай базавай сярэдняй школы імя Чарвякова пры НКА. Стаж 52 гады*

Настаўніцкая канферэнцыя, якая адбывалася ў Менску ў жніўні, палажыла пачатак маёй падрыхтоўкі да надыходзячага навучальнага года. Тут я, маючы на ўвазе, што мне будзе даручана ў гэтым годзе выкладаць рускую мову, геаграфію і матэматыку ў III класе, прымаў актыўны ўдзел у абгаварэнні і размеркаванні праграмнага матэрыялу па кварталах года па гэтых дысцыплінах. Уважліва разгледзіўшы і прадумаўшы выпрацаваны план, я палажыў яго ў аснову ўсёй маёй далейшай работы.

Перш за ўсё я падабраў і разглядзеў падручнікі, якімі будуць карыстацца вучні пры праходжанні праграмнага матэрыялу. Услед за гэтым я падабраў і намеціў увесь неабходны мне адпаведны дыдактычны матэрыял. Самае труднае для настаўніка—гэта ўдала саставіць штодзённы план урока. Над гэтым прышлося нямала папрацаваць, і план першых урокаў на першыя 3 дні быў мною складзен. Вось у чым у асноўным заключалася мая падрыхтоўка да навучальнага года.

Прымаючы пад увагу тое, што 1934—35 навучальны год павінен быць рашаючым годам у барацьбе за канчатковую ліквідацыю карэннага недахопу школы, я ў барацьбе за сістэматычнае і цвёрдае аўладанне вучнямі асноў навук бяру на сябе абавязак ажыццяўляць наступныя мерапрыемствы:

1) штодзённа і сістэматычна рыхтавацца да ўрока;

2) поўнасцю прапрацаваць з вучнямі праграмны матэрыял;

3) імкнуцца да найлепшай пастаноўкі комуністычнага выхавання маладога пакалення;

4) працаваць над павышэннем сваёй кваліфікацыі і набываць спецыяльныя веды па аўладанню педагагічным майстэрствам;

5) даваць дакладныя сістэматычныя веды па асноўных дысцыплінах і каб гэтыя веды былі жыццёвымі ведамі;

6) імкнуцца прывучыць дзяцей да работы над падручнікамі;

7) імкнуцца ілюстраваць урок—прыдаваць вучобе нагляднасць;

8) сістэматычна прывучаць дзяцей да самастойнай работы, шырока практыкуючы розныя заданні;

9) падтрымліваць наогул дысцыпліну вучняў і наладзіць працоўную дысцыпліну ў класе і

10) праглядваць і правяраць усе вучнёўскія работы, усе іх заданні.

## *К. Церах*

*Наст. I кл. менскай базавай сярэдняй школы імя Чарвякова пры НКА*

Падрыхтоўка да новага навучальнага года па першых класах прайшла наступным чынам:

а) своечасова былі ўкамплектаваны класы вучнямі і былі складзены спісы вучняў па класах;

б) настаўнікамі былі прагледжаны падручнікі і падрыхтаваны для раздачы вучням;

в) перад пачаткам заняткаў былі загатоўлены сшыткі, чарнільніцы і пісьмовыя прылады;

г) быў складзен гадавы план работы і план работы на першыя дні шасцідзёнкі.

Задачы класнай работы кожным настаўнікам сур'ёзна прадуманы. У гэтым навучальным годзе першыя класы бяруць на сябе наступныя абавязкі:

1. Шляхам азнаямлення з метадычнай літаратурай, шляхам гутаркі з метадыстамі, шляхам абмену вопытам і азнаямлення з працай лепшых вопытных педагогаў аўладаць педагагічным майстэрствам і зрабіць урокі жывымі і нагляднымі. Акуратнай праверкай хатніх заданняў і пісьмовых прац вучняў дабіцца высокай паспяховасці вучняў.

2. Грунтоўна падрыхтоўвацца да ўрокаў, асабліва да адкрытых і ўзорных, разгортваць навакол іх здаровую крытыку, даць дапамогу масавай школе.

3. Падняць на належную вышыню выхаваўчую працу сярод вучняў. Выхоўваць дзяцей у комуністычным напрамку, выхоўваць у іх любоў да сваёй соцыялістычнай радзімы, выхоўваць іх развітымі і культурнымі людзьмі—вось наша задача. А таму для палепшання выхаваўчай працы сярод вучняў неабходна бліжэй прыглядацца да дзяцей, вывучаць іх запатрабаванні, імкненні і асаблівасці ўзросту, а таксама падтрымліваць цесную сувязь з бацькамі вучняў. Прывіваць вучням навыкі чыстаты, акуратнасці, арганізаванасці, добрых эдносін паміж сабой і да калектыва, прывіваць навыкі аховы соцыялістычнай маёмасці. Дабівацца ажыццяўлення ўсяго гэтага праз чытанне адпаведнай дзіцячай літаратуры, мастацкае расказванне, прагляд лепшых мастацкіх пастановак у тэатрах юнага гледача і дзіцячым кіно, у якіх паказаць вялікія справы нашай краіны і гераічныя подвігі нашых лепшых людзей.

## *І. Вадэйка*

*Наст. прыродазн. менскай базавай сярэдняй школы імя Чарвякова пры НКА*

Добра прааналізаваўшы выкладанне прыродазнаўства мінулага вучэбнага года, я заўважыла шмат недахопаў. Не ўсе ўрокі былі абсталяваны нагляднымі дапаможнікамі, мала было мастацкага расказвання настаўнікам на ўроках па прыродазнаўству. На ўроках пераважала аднастайнасць, што дзяцей мала цікавіла.

Улічыўшы ўсе недахопы мінулага навучальнага года і падрыхтоўваючыся да выкладання прыродазнаўства ў III і IV класах у гэтым годзе, мною было прароблена наступнае: добра прапрацавана метадычнае ўказанне ў часопісу „Народный учитель“—артыкул „Как сделать урок природоведения интересным“. Прачытала ўважліва „Метадычныя распра-

цоўкі ў дапамогу настаўніку". Былі прачытаны мною і асобныя артыкулы, якія датычацца выкладання прыродазнаўства, напрыклад: „О подготовке живого уголка" (Часопіс „Народный учитель" № 3); „Как люди измеряют теплоту" урок па прыродазнаўству ў трэціх класах („Народный учитель" № 4); экскурсія ў поле і т. д. Апрача ўсяго прачытанага, я падабрала літаратуру, якая мне будзе неабходна пры выкладанні прыродазнаўства ў III і IV класах.

Па тэме „Глеба і карысныя выкапні" ў трэціх класах наступная літаратура акадэміка Ферсмана:

1. „Камень в природе и городе".
2. „Как построена мертвая природа".
3. „История камня".
4. „Камень на службе человека".

Миларовского — „Происхождение горных пород".
Степанова — „Что такое каменный уголь".

Па тэме „Жыццё раслін":

Папендик и Столповский — „Наши культурные растения, их происхождение и особенности".

Да тэмы „Жыццё жывёл":

1. Яхонтова — „Мир животных" 1 і 2 часткі.
2. Натали — „Животные и растения в уголке живой природы".
3. Ульмер — „Пресноводные насекомые".
4. Геншель — „Жизнь пресных вод".
5 Лепнева — „Очерки из жизни пресных вод".
6. Евтюков — „Наблюдение пернатых зимой".

Для таго каб мець найлепшыя рэзультаты ў дасягненні мэты ўрока, трэба падтрымліваць на працягу ўсяго вучэбнага часу ўвагу дзяцей шляхам змены метадаў і прыёмаў работы, улічваючы педалагічныя асаблівасці дзяцей. Як-бы добра настаўнік ні гаварыў, вучні не могуць слухаць яго з аднолькавай увагай на працягу 50 хвілін. Вучні стамляюцца ад аднастайнай работы.

Увесь сэнс заключаецца ў правільнай арганізацыі працы, у асазнанні дзецьмі мэт і задач работы і ў тым, каб дзеці на аснове ўліку бачылі свае дасягненні. У час урока настаўнік павінен уцягваць у работу ўвесь клас, а не займацца з адным вучнем. Настаўнік павінен правільна і цікава весці ўрок, прыцягваючы да працы ўсю ўвагу дзяцей. Для гэтага ён павінен добра падрыхтавацца да ўрока. І самае галоўнае, настаўнік павінен любіць дзяцей.

Для лепшай пастаноўкі ўрока і замацавання ўрока вялікую ролю адыгрывае рабочы план настаўніка. Рабочы план кожнага ўрока павінен быць сплánіраван з дакладным паказаннем часу, патрэбнага на выкананне намечанай працы ў час урока (гутарка настаўніка, праца з нагляднымі дапаможнікамі і т. д.), з пэўным падборам дыдактычнага матэрыялу і вучэбнага абсталявання. Для тых урокаў, у якіх настаўнік можа сустрэць цяжкасці, распрацоўка павінна быць больш падрабязнай.

## *Славінская і Палуйка*

*Наст-цы IV кл. 20 менскай школы*

Пасля летняга адпачынку, калі мы з'явіліся ў школу, яна зрабіла на нас добрае ўражанне, асабліва прыгожымі галубымі сценамі і адшліфаванымі скамейкамі. Відаць было, што тут затрачана шмат энергіі з боку дырэкцыі школы. З першага дня мы пазнаёміліся са складам вучняў

i тым планам падрыхтоўкi, якi вiсеў на сцяне (план складзен дырэктарам школы). З 17 па 25 жнiўня праводзiлi асеннiя iспыты вучняў.

З 25 па 28 жнiўня прысутнiчалi на настаўнiцкай канферэнцыi, дзе падрабязна пазнаёмiлiся з далейшай працай усёй школы i нашых класаў. Пасля канферэнцыi ўзялiся за складанне гадавых вытворчых планаў, якiя былi зацверджаны дырэктарам нашай школы.

У сваю чаргу дырэктар пазнаёмiў нас з агульна-вытворчым планам школы. 9 верасня прызначаем агульны бацькоўскi сход вучняў IV$^a$ i III$^b$ класаў. На сходзе абгаварылi наступныя пытаннi: 1) як школа падрыхтавалася да новага навучальнага года, 2) знаёмства бацькоў з вытворчым планам i роля бацькоў у выкананнi гэтага плана. 10-га верасня першы дзень збору вучняў. На гэты дзень намечана наступнае: усе вучнi будуць рассаджаны па скамейках i за кожным з iх будзе замацавана яго сталае месца; правядзем гутарку, якiя абавязкi ўскладаюцца на кожнага вучня на працягу цэлага года. Пасля схода раздалi падручнiкi i вучнi разышлiся па дамах. 11-га верасня першы дзень заняткаў. Па раскладу намечаны наступныя ўрокi: 1. Вусная беларуская мова; 2. Пiсьмовая мова; 3. Матэматыка; 4. Прыродазнаўства; 5. Фiзвых.

На першым уроку дзецi будуць расказваць як яны правялi летнi адпачынак. З расказаў дзяцей складзем план, па якiм можна было-б пiсьмова перадаць сваю думку ў выглядзе невялiчкага апавядання. Мэта ўрока: развiццё вуснай мовы. На другiм уроку дзецi будуць пiсаць пераказ па пытаннях першага ўрока, якiя будуць запiсаны на дошцы. Мэта ўрока: развiццё пiсьмовай мовы.

На ўроку матэматыкi дзецi будуць рашаць задачу i прыклады на складанне i адыманне цэлых лiкаў любой велiчынi. Мэта—замацаваць веды на складанне i адыманне лiкаў любой велiчынi.

На ўроку прыродазнаўства вучнi будуць разглядаць калекцыi, якiя яны сабралi за лета, i прывядуць iх у сiстэму. Мэта—замацаваць папярэднiя веды па тэме: „Жыццё раслiн".

На лекцыi фiзвыху будуць вольныя рухi i гульнi.

З 13 верасня па плану пачнецца праца.

*І. Марголін*

# Што чытае настаўнік БССР

*(Вывады адной анкеты)*

Без сістэматычнага чытання газет настаўнік зусім няздольны праводзіць сваю вялікую задачу — выхаванне маладога пакалення ў духу комунізма. Для настаўніка кніга з'яўляецца важнейшай крыніцай атрымання новых ведаў, падвышэння сваёй кваліфікацыі. Таму надзвычайна цікава ведаць, што чытае наш масавы настаўнік, якія газеты, часопісы і кнігі ён скарыстоўвае ў сваім паўсядзённым быту. Для гэтай мэты мы правялі анкету сярод курсантаў-настаўнікаў пачатковых школ БССР, якіх падрыхтоўвалі да работы ў няпоўнай сярэдняй школе па хіміі і біялогіі. Задача гэтага артыкула—падзяліцца вывадамі гэтай анкеты.

Некалькі слоў аб саміх курсантах. Усяго на час раздачы анкеты іх было 115 чал. Анкету запоўнілі 97 чал., 18-жа чал., не гледзячы на нашу гарачую агітацыю, запоўніць анкету не палічылі патрэбным. Агульна-адукацыйны ўзровень апрашваемых наступны: скончылі аднагадовыя педкурсы—11 чал., двухгадовыя—26 чал., педтэхнікум—19 чал., з сярэдняй адукацыяй—26 чал., з незакончанай вышэйшай адукацыяй—1 чал., скончылі семінарыю—2 чал., 2-х класнае вучылішча—2 чал., з ніжэйшай адукацыяй—1 чал., не паказалі—9 чал. Педагагічны стаж іх: з аднагадовым педстажам—25 чал., з 2-гадовым—25 чал., з 3-гадовым—17 чал., з 4-гадовым—8 чал., вышэй 4-х год—22 чал.

З прыведзенага відаць, што 50 проц. апрашваемых людзі з зусім невялікім педагагічным стажам і з параўнальна нізкім адукацыйным узроўнем. Каля 38 проц. (уключаючы сюды 9 чал., якія не паказалі свайго адукацыйнага цэнзу) зусім не маюць педагагічнай адукацыі. Між тым РайАНА палічыў магчымым высунуць іх на работу ў II канцэнтры няпоўнай сярэдняй школы, а значыцца, яны з'яўляюцца найбольш актыўнымі і перадавымі сярод сваіх таварышоў.

*Што-ж чытаюць гэтыя настаўнікі?*

На пытанне анкеты,—якія газеты чытаеце сістэматычна і якія несістэматычна,—адказы далі наступныя: больш за ўсе сістэматычна чытаецца „Звязда“ (63 чал.); за ёй ідзе „ЗКП“ (42 чал.); раённая газета (41 чал.); „Правда“ (17 чал.); „Комсомольская Правда“ (9 чал.); „Известия“ (7 чал.); „Чырвоная Змена“ (3 чал.); „Літаратурная газета“ (1 чал.) і „Калгаснік Беларусі“ (1 чал.). У несістэматычным чытанні першае месца займае „Правда“ (46 чал.), за ёй ідзе „ЗКП“ (30 чал.), „Известия“ (23 чал.), „Звязда“ (19 чал.), „Чырвоная Змена“ (10 чал.), а потым ужо розныя іншыя—усяго 12 назваў.

Адсюль бачым, што настаўніцкая маса ў асноўным чытае газету сістэматычна, прычым абсалютная большасць чытае „Звязду“ або

„Праўду". 42 проц. настаўнікаў пастаянна чытаюць і сваю настаўніцкую газету. Мала чытаецца „Комсомольская Правда" і зусім не даходзяць да настаўніцкага асяроддзя такія газеты, як „Литературная газета", „Літаратура і мастацтва" (указваецца ўсяго 3 разы). Зусім не чытаюць газет ні сістэматычна ні часамі—9 чалавек (нажаль ёсць такія), чытаюць толькі адну газету—18 чал., дзве—60 чал., тры—20 чал. Пры гэтым, калі чытаюцца 2 газеты, то ў большасці выпадкаў гэта будуць „Звязда" і раённая або „ЗКП" і раённая.

*Пяройдзем да пытання аб чытанні педагагічных часопісаў.* На вялікі жаль вывады тут атрымаліся зусім іншыя. Зусім не чытаюць педагагічных часопісаў 40 чал., сістэматычна чытаюць толькі 29 чал., астатнія 28 чал. чытаюць часамі. З чытаемых часопісаў першае месца займае „Комуністычнае выхаванне"—15 чал., далей ідуць „В помощь учителю"—4 чал., „За политехническую школу"—2 чал., „За интернациональное воспитание"—2 чал., а „Начальная школа", „Биология и химия в школе" і „Народный учитель"—па 1 чал. З педагагічных часопісаў, якія чытаюцца часамі, зноў-такі больш за ўсё абанентаў мае „Комуністычнае выхаванне"—26 чал., „За политехническую школу"—6 чал., „Народный учитель"—4 чал., „Естествознание в школе"—3 чал., „В помощь учителю"—2 чал., „Просвещение"—1 чал.

Такім чынам, значная частка настаўніцтва БССР сістэматычна не чытае педагагічных часопісаў. У гэтых адносінах асабліва здзіўляе група выкладчыкаў з 2-гадовым педстажам. З 25 чал. гэтай групы толькі двое паказалі, што яны сістэматычна чытаюць часопіс. Адзін з іх чытае часопіс „Народный учитель", другі—„За интернациональное воспитание".

*Якую-ж педагагічную літаратуру чытае наш настаўнік?* У мэтах высвятлення гэтага перад курсантамі былі пастаўлены наступныя тры пытанні:

1. Якія кнігі і брашуры, прысвечаныя пытанням школы і выданыя пасля пастановы ЦК ВКП(б) ад 5/IX 1931 г., вядомы Вам.
2. Назавіце кнігу па методыцы, якую Вы прачыталі за апошні год.
3. Назавіце самую цікавую кнігу па педагогіцы, прачытаную Вамі за апошнія 3—6 месяцаў.

Адказы на гэтыя тры пытанні атрыманы наступныя: 27 чал. чыталі пастанову ЦК аб школе, 7 чал. чыталі брашуру т. Бубнова і яго адозву па настаўнікаў у пачатку мінулага навучальнага года, 4 чыталі брашуру „Як падрыхтавацца да ўрока", па аднаму чыталі „Аб школьным рэжыме", „Аб дысцыпліне", „Аб інтэрнацыянальным выхаванні" і „Аб усеагульным навучанні". Методыкі чыталі: па матэматыцы—25 чал., па прыродазнаўству—12 чал., па мове—9 чал. Пры гэтым самая вялікая колькасць чытачоў прыпадае на групу з найбольшым педагагічным стажам.

Як бачым і гэтыя даныя з'яўляюцца далека неўцяшальнымі. З 100 чал. выкладчыкаў ні адзін не назваў цікавай кніжкі па педагогіцы, прачытанай ім у апошні час. Чытаюць методыку той або іншай дысцыпліны па меры патрэбнасці. У некаторых анкетах існуе поўная блытаніна. Да педагагічнай літаратуры прылічаецца „Дневник Кости Рябцева", прафесару Афанас'еву прыпісваюць методыку матэматыкі, замест Эменава называюць Эмена, Сталіну прыпісваюць прамову „Аб пачатковай і сярэдняй школе" (напэўна маюць на ўвазе пастанову ЦК аб школе) і інш.

Яшчэ горш абстаіць справа з чытаннем кніг навуковага характару. Усяго за апошні год настаўнікамі (па іх паказаннях) прачытана 16 назваў, з іх: „Дыялектыку прыроды"—3 чал., „Эвалюцыйнае вучэнне"—2 чал., „Палітэканомію"—3 чал. і некаторыя—іншыя. Адзін выкладчык кнігу навуковага характару, якую ён чытае, называе энцыклапедыяй.

Толькі адзін паказвае, што чытаў „Пытанні ленінізма“ Сталіна, а другі— творы Леніна.

*Ці праходзіць у гушчу народнага настаўніцтва кніга мастацкага характару, у якім размеры і якая іменна?* На пытанне аб тым, якія кнігі мастацкага характару Вамі прачытаны за апошняе поўгоддзе, большасць настаўнікаў называе розную мастацкую літаратуру, пры гэтым у большасці выпадкаў літаратуру паслякастрычніцкага перыяду. Д. Бедны, Шолахаў, Панфераў, Гладкоў, Горкі, Фурманаў,—вось найбольш папулярныя імёны сярод настаўнікаў. Мала чытаюцца класікі. Толькі некаторыя анкеты гавораць аб Талстым, Гогале, Некрасаве. З беларускіх пісьменнікаў называюць Коласа, Купалу, Александровіча, Галавача і некаторых іншых. Судзячы па анкетных даных беларуская мастацкая літаратура чытаецца ў яўна недастатковай колькасці.

*Дзе настаўнік атрымлівае кніжкі для чытання?* На гэта пытанне з 97 чал. даюць адказ 58. Большасць (25 чал.) бяруць кнігі ў грамадскай бібліятэцы, 16—у школьнай, 12—у знаёмых, а 5—купляюць. Пры гэтым некаторыя, нібы апраўдваючыся, адзначаюць, што купляць кнігі мастацкага характару немагчыма з прычыны высокіх цэн. Паказанне, безумоўна, правільнае. Дзяшовае выданне мастацкай літаратуры, якое мела месца некалькі год назад, цяпер на кніжным рынку адсутнічае. Гэта з'яўляецца вялікім тормазам да больш шырокага пранікнення мастацкай кнігі ў асяроддзе народнага настаўніцтва. Што-ж набывае настаўнік для чытання на свае ўласныя сродкі З 34 назваў, якія ёсць у анкетах, першае месца займае газета і ў першую чаргу „Звязда“ - 55 чал., за ёй раённая газета - 40 чал., „ЗКП“—35 чал., „Правда“—23 чал., „Известия“—10 чал. Сярод розных часопісаў—педагагічныя займаюць апошняе месца. Толькі трое паказваюць, што адзін з іх выпісвае „Биологию и химию“, другі „Комуністычнае выхаванне“, а трэці „Новый мир“. Той факт, што з апрошаных 97 чал. толькі 3 настаўнікі выпісваюць педагагічны часопіс на свае сродкі, лішні раз падкрэслівае, што наш масавы настаўнік усё яшчэ недаацэньвае ролі педагагічнай літаратуры ў справе падвышэння сваёй кваліфікацыі і рацыяналізацыі педагагічнага працэсу, мала працуе над сваім культурным развіццём.

*Што трэба зрабіць для таго, каб настаўнік чытаў літаратуру?* Якімі сродкамі ўздзейнічаць на настаўніка, каб педагагічны часопіс стаў яго штодзённым хлебам? Нам здаецца, што гэтага можна дасягнуць наступным шляхам:

1. Ускласці персанальную адказнасць на настаўніка ў справе абавязковага чытання ім газет, педагагічных часопісаў і мастацкай літаратуры, разглядаючы гэтую справу як неабходны элемент у падрыхтоўцы настаўнікаў да школьных заняткаў.

2. Рашуча паставіць пытанне аб тым, што не можа быць настаўніка, які не падвышае свайго палітычнага і педагагічнага ўзроўню, які не знаём з бягучай палітыкай, з педагагічнымі і метадычнымі навінкамі. Настаўнік, не павышаючы сваёй кваліфікацыі, свайго палітычнага і культурнага ўзроўню—гэта анекдот, а не настаўнік.

3. Дырэктары школ, загадчыкі ГоррайАНА і Саюз працасветы не ў меншай ступені адказваюць за наладжванне справы сістэматычнага чытання настаўнікамі газет, кніг і часопісаў.

4. НКА павінен распрацаваць рэкамендацыйныя спісы літаратуры для настаўнікаў розных дысцыплін. Часопіс „Комуністычнае выхаванне“ павінен выдзеліць асобны раздзел рэцэнзіравання і натацый як навінак, так і наогул неабходнай карыснай літаратуры для настаўнікаў.

5. Кожнай школе ў абавязковым парадку неабходна выпісаць хоць-бы два педагагічных часопісы, а буйным, многакласным школам і больш.

Трэба каб школьныя бібліятэкі закупалі мастацкую літаратуру, бо вельмі часта настаўнік не чытае не таму, што не хоча, не цікавіцца, а таму, што няма дзе дастаць кнігі.

6. У мэтах прывіцця настаўнікам інтарэсу да чытання педагагічнай літаратуры, неабходна час ад часу праводзіць рэферыраванне артыкулаў і брашур педагагічнага характару, размеркаваўшы гэтую задачу паміж усімі членамі школьнага калектыва.

7. У абавязках па соцспаборніцтву павінен быць уключан пункт аб выпісцы педагагічных часопісаў і аб сістэматычным чытанні іх кожным настаўнікам. Гэты пункт павінен дасканала правярацца.

Школьны работнік не можа прэтэндаваць на званне ўдарніка і тым больш лепшага ўдарніка, калі ён сістэматычна не чытае педагагічных часопісаў, калі ён на працягу навучальнага года не прачытаў некалькі дзесяткаў кніг мастацкай літаратуры.

Неабходна педагагічную і мастацкую літаратуру ўкараніць у настаўніцкую масу, бо вырашыць справу культурнага росту настаўніка і падвышэння яго кваліфікацыі без сістэматычнага чытання немагчыма. За гэту справу энергічна павінны ўзяцца РайАНА і Саюз працаўнікоў асветы. Ей павінны кіраваць партыйныя арганізацыі.

---

## ПАПРАЎКА.

У змесце гэтага нумера часопіса „Комвыхаванне“ памылкова надрукавана—„Правілы ўнутранага распарадку Менскай базавай сярэдняй школы імя Чарвякова“.

Самыя-ж правілы ў часопісу не друкуюцца.



Рэдкалегія: Баршчэўская, Башкевіч, Гарадзецкі, Дардак, Ляшчынскі, Логбень (адказны рэдактар), Панкевіч, Фрэйдман (нам. рэдактара).